ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 16 (1510) ГОД XXX БЕЛАСТОК 21 КРАСАВІКА 1985 г. ЦАНА 8 зл

З рэпарцёрскіх запісак

## АРЛЯНСКІ ЎЗЛЁТ

У палавіне месяца лютага на адрас „Нівы" паступіла запрашэнне наступнага зместу: *„Гмінны камітэт ПАРП у Орлі ветліва просіць таварыша рэдактара на гмінную справаздачную канферэнцыю ПАРП, якая адбудзецца 24.02.1985 г. у 10.00 у святліцы гміннага ўпраўлення".*

Падпісаў І сакратар ГК ПАРП у Орлі — Ян Кубаеўскі. Звычайна і скромна — Ян Кубаеўскі, хаця вядома нам, што мае ён доктарскае званне.

*

Доктар Ян Кубаеўскі прыняў на сябе абавязкі гміннага сакратара партыі ў самы бурлівы час. Многія яго не зразумелі, бо цяжка было зразумець паводзіны гэтага чалавека, які пакінуў у Кракаве добрую кватэру і адказную пасаду, каб пасяліцца ў занядбанай бацькоўскай хаце ў Орлі. Ды за час свайго прабывання ў гэтым пасёлку новы сакратар больш часу праводзіў у вёсках, больш клапаціўся за чужыя, чым за свае ўласныя справы.

Актыў быў мясцовы і даўно ўжо выпрабаваны ў грамадскай дзейнасці. Каб быць справядлівым, неабходна было б назваць імя і прозвішча ўсіх прысутных на гэтай канферэнцыі партыйных актывістаў, разам каля 60 чалавек, людзей з розным жыццёвым вопытам і стажам у грамадскай дзейнасці. Гэта члены гміннага камітэта партыі і дэлегаты ад пярвічных партыйных арганізацый на гмінную выбарчую канферэнцыю. Іх галасы, іх рашэнні будуць вызначаць ацэнку дзейнасці і прыдатнасць штатнага сакратара Яна Кубаеўскага ды яго грамадскіх памочнікаў, якія складаюць арлянскую экзекутыву гміннага камітэта партыі.

Начальнікам гміны ў Орлі з'яўляецца Мікалай Зіневіч, таксама, як і сакратар Кубаеўскі, сялянскі сын. Абодва яны выйшлі з



Ян Кубаеўскі.

народа і засталіся з народам. Разумеюць яго патрэбы, мысленне і мову.

*

Са справаздачным дакладам ад імя экзекутывы арлянскага гміннага камітэта партыі выступіў Юрка Сахарэвіч — няштатны сакратар па справах прапаганды і палітычнага выхавання, а па прафесіі — настаўнік, дырэктар пачатковай школы ў Орлі. Даклад, як і павінна быць, адлюстроўваў усебаковую дзейнасць гміннага камітэта і цэлай гміннай партыйнай арганізацыі за перыяд ад 18 снежня 1983 года, значыць, ад апошніх выбараў гміннай партыйнай улады.

Сакратар Ян Кубаеўскі разам са сваімі памочнікамі ў асноўным надалей займаліся справамі, здаўна для Орлі найважнейшымі. Гэта:

* Пабудова школы.

* Пабудова асяродка здароўя.

* Перабудова даўнейшай сінагогі на гмінны цэнтр культуры, пры адначасовым захаванні архітэктурных і гістарычных асаблівасцей гэтай помнікавай будоўлі.

* Пабудова вялікай і сучаснай цагельні (керамічнага прадпрыемства) дзеля выкары-

(Працяг на стар. 5)

## ДАГАВОР ДРУЖБЫ

„Дагавор аб дружбе, узаемадапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве паміж Польшчай і Савецкім Саюзам" падпісаны быў у Маскве 21 красавіка 1945 года.

Падпісанне дагавору юрыдычна санкцыяніравала факты, зроджаныя на франтах барацьбы з фашысцкімі захопнікамі. Была гэта форма падтрымкі з боку СССР Часовага ўрада Польшчы як адзінага прадстаўніка польскага народа, што з пункту гледжання міжнароднага права мела тады вельмі важнае значэнне.

Падпісаны Часовым урадам Польшчы дагавор з СССР падняў яго аўтарытэт і ўмацаваў яго міжнародную пазіцыю. Дагавор палажыў канец ранейшым адносінам з СССР, у якіх не бракавала элементаў адкрытай варожасці, будучых на руку нямецкаму імперыялізму. Падпісанне дагавору было рэалізацыяй пастулатаў польскай лявіцы, польскіх камуністаў, ППРу. Быў гэта вынік польска-савецкага братэрства, вырасшага падчас супольнай вайны з фашысцкімі захопнікамі. Дагавор стварыў рэальную перашкоду для адраджэння нямецкага імперыялізму, стаў падставай сапраўднай незалежнасці і сувярэннасці Польшчы, гарантыяй непарушнасці яе граніц на Одэры і Нейсе Лужыцкай, стаў важным звяном у працэсе кшталтавання садружнасці сацыялістычных краін, а таксама новых суадносін сіл на свеце на карысць сацыялізму.

З перспектывы гадоў дакладна бачым, што ідэі яго сістэматычна развіваюцца з карысцю як для Польшчы так і для СССР і з'яўляюцца трывалай асновай эканамічнага і навукова- тэхнічнага супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі.

*

Эканоміка з'яўляецца матэрыяльна-грамадскім фундаментам усёй канструкцыі сацыялістычнага ладу. І ў эканамічных адносінах мы маем дачыненне з аўтэнтычнай інтэрнацыяналістычнай дапамогай, якая вельмі адчувалася з першых дзён уступлення Савецкай Арміі на польскія землі. Адразу ў вызваленыя раёны прыбывалі транспарты мукі, цукру і лякарстваў. Савецкія салдаты дапа-

(Працяг на стар. 2)

МАКСІМ ТАНК

## НА БРАЦКАЙ ЗЯМЛІ

На захад —
варта векавых асін,
На ўсход — далёкі летуценняў шлях.
На поўнач, на паўдня,
удалячынь
Раскінулася польская зямля.
Дзяўбуць яе сапёрскія ламы —
Аж іскры з-пад лапат і з-пад штыкоў —
І крыўдзімся на гэту глебу мы,
Хаваючы таварышоў, сяброў,
Здаецца, непрытульная яна
І мулка будзе тут адпачываць
Байцам, якім больш трох гадоў вайна
Не дазваляла вочы замыкаць.
Здаецца, і пясок тут шмат цяжэй,
Як на радзіме,
над Беразіной,
І неба на змярканні сцюдзяней,
Як над далёкай хатаю сваёй.
Ды толькі рана,
на світанні, мы,
Ўзбіраючыся на круты Бяскід,
Убачылі на саване зімы
Зялёныя
хваёвыя
вянкі.
Хто на перадавую іх прынёс?
Хто іх рукамі беражна звязаў,
Сястра ці мо паранены Хрыстос,
Сыноўшы з прыдарожнага крыжа?
Хто б там ні быў...
Мы ведалі адно:
На брацкай, на сваёй зямлі байцы
Ляглі тут адпачыць
салдацкім сном,
А мы наперад можам зноў ісці.
1945

ЮЗАФ ОЗГА-МІХАЛЬСКІ

## ВЁСКІ НА БЕЛАРУСІ

Вёскі на Беларусі
Стаяць яшчэ засмучона.
Вярозавы гай бялее,
А ў ім мухамор чырвоны,
І хата, што насупраць,
Чакае капялюш той.
Як гаспадар,
насупленая,
З барадой калючай.

Зямля крывёю набракла
Тут у кожным месцы.
Ёсць у хлебе смак яе,
Калі хлеб месяць.

Партызан выйшаў з лесу,
Ён рады спакою.
Збрыў бараду,
дом крые
Чырвонай страхою.
1945.

Пераклад Р. Барадуліна.



**НА МЯЖЫ**

# АБ НЯВЫКАРЫСТАНЫХ ШАНЦАХ (VI)

Вельмі часта ў беларускіх асяроддзях сутыкаемся з апініяй, у якой гучыць матыў прэтэнзіі да палякаў. Істота гэтай апініі зводзіцца да таго, што палякі не адносяцца з належнай пашанай да беларусаў і беларускасці. Хацелася б мне ў сувязі з гэтым спытаць, а ці многія беларусы да беларускасці адносяцца з належнай пашанай? Ці маці-беларуска, якая з першых дзён нараджэння дзіцяці гаворыць з ім не па-беларуску, не сароміцца сваёй беларускасці? Ці бацька, які не дазваляе свайму дзіцяці хадзіць у школу на беларускую мову, шануе беларускасць? А ці наймізэрнейшы чыноўнік-беларус, які не адазвецца словам па-беларуску, бо ён жа прадстаўнік польскай дзяржавы, заслугоўвае на пашану? А ці духоўны, які не гаворыць сваім прыхаджанам, што іх мова мілая Богу, як і ўсякая іншая, добра служыць Богу? Усё гэта сведчыць аб тым, што мы не шануем самі сябе, а чалавек, які не шануе сябе, не можа лічыць на пашану з боку чужых.

Уявім сабе, дарагія чытачы, немца, рускага, паляка, яўрэя, англічаніна, якія не прызнаюцца да сваёй нацыянальнасці, якія прымазваюцца да нейкага іншага народа. Што мы скажам аб такім чалавеку? Скажам, што ён круцель, крывадушнік, ашуканец, жулік і т.п. У ніякім выпадку не скажам, што ён парадачны чалавек. І ніхто не скажа, што такі чалавек заслугоўвае на пашану. Калі не заслугоўвае на такую пашану любы прадстаўнік любой нацыі, дык не заслугоўвае на яе і беларус, які, кіруючыся дурацкімі меркаваннямі, не прызнаецца да сваёй нацыянальнасці і робіць усё, каб сваю сям'ю і асабліва дзяцей як найдалей адвесці ад таго, што складае кожную нацыянальнасць: ад мовы, традыцый, абрадаў, звычаяў, гісторыі, асветы.

Можа хтосьці сказаць: не ўсе такія. Святая праўда. Дзякуй Богу, не ўсе. Аднак, як гавораць, адна кропля дзёгцю псуе бочку мёду. На жаль, такіх кропель дзёгцю маем вельмі многа. Дык нічога дзіўнага, што чужыя не маюць аб нас найлепшай апініі. Прэтэнзіі за гэта трэба мець аднак не да іх, а да саміх сябе.

Праедзьце ад Дубровы да Сямяціч праз усе мястэчкі, зайдзіце ў школы, гмінныя ўстановы, партыйныя і маладзёжныя бюро, зайдзіце ў любую ўстанову. Усюды поўна беларусаў. Ніхто, хто кіруецца ў жыцці элементарнай праўдай, не скажа, што Народная Польшча, так як гэта рабіла санацыйная Польшча, кіруючыся асімілятарскімі меркаваннямі, беларусаў павысылала ў польскія раёны, а беларускую тэрыторыю абсадзіла палякамі. Калі б хто так сказаў — ілгаў бы. Ва ўсіх установах сядзяць беларусы. Вядома, што афіцыйнай мовай ва ўстановах ёсць польская мова. Аднак, на маю думку, гэта не перашкаджае, каб войт, дырэктар школы, чыноўнік, палітычны дзеяч з наведвальнікам-старушкай ці старым чалавекам, якія не ведаюць польскай мовы, загаварылі па-беларуску. Ад гэтага не адпаў бы ў іх язык і прэстыж улады не паменшыўся б. Наадварот, у разуменні такога наведвальніка (а ён жа таксама грамадзянін Народнай Польшчы) дзяржава ў такой сітуацыі набрала б рыс чагосьці высакароднага і блізкага, а такую апінію людзей хацела б чуць кожная ўлада.

Я не хачу сказаць, што ўвогуле няма такіх разумных прадстаўнікоў улады. Ёсць, аднак вельмі мала.

**Алесь Барскі**

# ДАГАВОР ДРУЖБЫ

(Працяг са стар. 1)

магалі ў адбудове польскіх чыгуначных магістраляў, мастоў, электрастанцый, жылых дамоў. Значны таксама быў іх удзел у адбудове прамысловай базы, у разміноўванні і дастаўцы прадпрыемствам неабходнай сыравіны і матэрыялаў.

Ужо 7 ліпеня 1945 года СССР і Польшча падпісалі першае гандлёвае пагадненне, якое дало пачатак планаваму развіццю гаспадарчых адносін паміж дзвюма дзяржавамі.

У гадах 1946-1948 Польшча атрымала ад СССР 900 тысяч тон збожжа, што запэўніла засеянне палёў, а таксама палепшыла забеспячэнне насельніцтва. Трэба пры гэтым помніць аб тым, што былі гэта цяжкія часы для СССР, а таксама аб тым, што цэны дастаўленага збожжа былі ніжэйшыя ад сусветных цэнаў.

А вось іншы прыклад. Транспартная сець, асабліва чыгуначная, была практычна паралізавана з прычын ваенных знішчэнняў. Савецкае войска адбудавала 4 тыс. кіламетраў чыгуначных пуцей, больш як 12 тыс. кіламетраў ліній сувязі, памагло ў адбудове 200 мастоў, а таксама арганізоўвала камунальны транспарт. У 1946 годзе перададзены Польшчы рухомы чыгуначны састаў вартасці 22 млн. долараў, а таксама 1980 здабытых паравозаў. У сакавіку 1947 года Савецкі Саюз перадаў Польшчы 19 здабытых суднаў, а таксама 6 затопленых караблёў, якія былі падняты на паверхню савецкімі спецыялістамі ў польскіх партах.

Істотнае значэнне для адбудовы прадукцыйнага патэнцыялу Польшчы меў дагавор з 16 жніўня 1945 года, на моцы якога Савецкі Саюз зрокся на карысць Польшчы панямецкай маёмасці, якая знаходзілася на тэрыторыі ПНР, а таксама адступіў ёй 15 прац. рэпарацыйных паставак камплектных прамысловых абсталяванняў, якія належаліся СССР з заходняй акупацыйнай зоны Германіі.

Вялікай дапамогай Польшчы было ўдзяленне ёй у сакавіку 1947 года 10-гадовага крэдыту ў золаце і выменнай валюце на суму 27,8 млн. долараў (для параўнання — цэлы экспарт Польшчы ў 1947 годзе замыкаўся сумай 248 млн. долараў). Апрача таго, анулiравана было завінавачванне, якое ўзнікла ў гадах вайны ў сувязі з утварэннем, аснашчэннем і ўтрыманнем польскіх вайсковых фармацый на тэрыторыі СССР.

Для выканання планавых задач у адбудове народнай гаспадаркі Польшчы таксама істотнае значэнне мела пастаўка з СССР прамысловых і сельскагаспадарчых машын, транспарту і сыравіны. У тым перыядзе Польшча атрымала амаль 415 тыс. тон марганцаванай руды, 569 тыс. тон алюмінію, 155 тыс. тон бавоўны, 65 тыс. тон апатытаў і г.д. Польшча плаціла за савецкія пастаўкі такімі таварамі, як вугаль, цынк, сода, цэмент, цукар і іншымі.

У перыядзе індустрыялізацыі было дастаўлена Польшчы аснашчэнне для амаль 80 камплектных аб'ектаў, а для 200 наступных — машыны і абсталяванне падставовага значэння для прадукцыі.

У перыядзе 6-гадовага плана дзякуючы супрацоўніцтву з СССР былі пабудаваны і абсталяваны наступныя прамысловыя аб'екты:

— Цеплавая электроўня ў Явожне, водная ў Дыхаве, электрацяплоўня на Жэрані ў Варшаве;

— Гута імя Леніна ў Новай Гуце, гута імя Берута ў Чэнстахове, гута высакаякаснай сталі „Варшава" і гута алюмінію ў Скавіне;

— Цэментоўня „Пшыязнь" у Вежбіцы;

— „ФСО" ў Варшаве „ФСЦ" у Любліне. фабрыка электрычных генератараў „Дольмэль" у Вроцлаве, фабрыка абсталяванняў для кузняў у Эльблонгу, фабрыка газнікаў у Лодзі, фабрыка падшыпнікаў у Красніку;

— Фабрыка соды ў Янікове, фабрыка сінтэтычнага каўчуку і фабрыка карбіду на камбінаце „Асвенцім", фабрыка актыўнай сажы ў Глівіцах, фабрыка штучных субстанцый у Пусткове;

— Тэкстыльны камбінат у Пятркове, баваўняныя фабрыкі ў Фастах і Замброве.

У гадах 1965-70 першае месца займалі праблемы развіцця спецыялізацыі і кааперацыі прадукцыі.

У канцы 60 гадоў асаблівую пазіцыю занялі спецыялізаваныя пастаўкі для СССР марскіх суднаў, чыгуначнага транспарту, абсталявання фабрык сернага квасу, цукроўняў, фабрык стружкавых і фетравых пліт, сілікатнай цэглы, а таксама аўтамабільнага транспарту.

Эканамічнае супрацоўніцтва з СССР у мінулым саракагоддзі было найважнейшым фактарам гаспадарчага развіцця Польшчы. Яно праходзіла сваю эвалюцыю ад формы аднабаковай дапамогі СССР у першых пасляваенных гадах да партнёрскага эканамічнага супрацоўніцтва.

Апошнія цяжкія гады, як і ў перыядзе пасляваенным і ў палавіне пяцідзесятых гадоў, асабліва выразна і пераканаўча падкрэслілі значэнне гаспадарчых і гандлёвых сувязей СССР з нашай краінай.

У гадах 1980-81, нягледзячы на невыкананне плана паставак Польшчы ў СССР, Савецкі Саюз не толькі прадаўжаў свае пастаўкі ў планаванай колькасці, але нават у некаторых выпадках павялічыў свой экспарт.

Савецкае кіраўніцтва выразіла згоду на рэалізацыю ад 1981 года ўзаемных паставак на незбалансаванай падставе. Дзякуючы гэтаму магчымым стала павелічэнне савецкага імпарту, а асабліва паліва, сыравіны і матэрыялаў да прадукцыі, на якія прыпадае цяпер 75 прац. агульных паставак з СССР.

У 1981 годзе Савецкі Саюз прызнаў Польшчы (незалежна ад крэдыту на пакрыццё адмоўнага плацёжнага сальда, а таксама крэдыту на дадатковыя пастаўкі тавараў) крэдыту вольнадэвізнага ў суме больш 1 мільярда долараў, а таксама беззваротнай дапамогі ў суме 460 мільёнаў долараў. Савецкае кіраўніцтва выразіла згоду на перанясенне сплаты прыдзеленых дагэтуль крэдытаў на гады 1986-1990. СССР прызнаў таксама іншыя формы дапамогі для Польшчы, як, напрыклад, крэдытаванне недаконченых інвестыцый, выкарыстанне прадукцыйных моцаў нашых прадпрыемстваў.

Падпісаная ў маі 1984 года доўгатрывалая праграма развіцця, гаспадарчага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва паміж СССР і ПНР да 2000 года з'яўляецца найбольш комплексным і перспектыўным дакументам, які накрэслівае напрамкі сацыялістычнага развіцця абедзвюх краін.

Як вынікае з вышэй сказанага, аб гаспадарчым супрацоўніцтве Народнай Польшчы з Савецкім Саюзам сведчыць шматгадовая гісторыя ўзаемных адносін, ідэя якіх выказана ў падпісаным 21 красавіка 1945 года дагаворы.

**Міхась Хмялеўскі**

**НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН**

# КРЫЗІС ДЭМАКРАТЫІ

**У Злучаных Штатах Амерыкі, вядучай краіне Захаду, дэмакратыя перажывае крызіс. Даўно загасла вера ў ідэалогіі ды партыі, якія пераўтварыліся ў велічэзныя выбарчыя машыны, што запускаюцца ў ход кожныя чатыры гады...**

„Грамадзяне ЗША ўсё менш сімпатыі адчуваюць да найсаліднейшых дзяржаўных інстытутаў", — лічыць Сеймур Ліпсет, выкладчык Стэнфордскага універсітэта, адзін з найаўтарытэтных у краіне спецыялістаў у галіне палітыкі. На думку яго калегі, Уольтэра Берынгема з Масачусэтскага тэхналагічнага інстытута, „рэжым ужо ўступіў у стадыю крызіса". Кіраўнічыя колы ЗША, сцвярджае Берынгем, усё ў меншай ступені выказваюць волю народа.

Усё больш сумненняў у законнасці амерыканскіх правіцеляў выклікае той факт, што людзі, якія выбралі іх, належаць да адной сацыяльнай праслойкі — як правіла, да вышэйшых слаёў амерыканскага грамадства...

У ніводнай краіне, бадай, не галасуюць так часта і з такіх розных прычын, як у Злучаных Штатах. Аднак гэта „прамая дэмакратыя" мае зваротны бок. Яе нярэдка скарыстоўваюць у сваіх карыслівых інтарэсах featuring рознага роду дэмагогі, а таксама людзі ўсялякіх палітычных груп і вялікага бізнесу, якім не ўдаецца іншымі способамі націснуць на выканаўчыя і заканадаўчыя органы.

Такім чынам „прамая дэмакратыя" з'яўляецца свайго роду выпускным клапанам, прызначэнне якога — разраджаць атмасферу грамадскага нездавальнення дзяржаўнымі інстытутамі, якія ўсё менш адказваюць сапраўдным інтарэсам амерыканцаў.

„Панарама", Мілан.



„Ніва"
21.IV.1985 г.

## ПОЙДЗЕМ У АДВЕДКІ

Маё знаёмства з калектывам з Тыневіч Вялікіх датуецца ад іхняй публічнай службы на сцэне. Але наша дружба нарадзілася ў трагічныя для калектыву дні, калі раптоўна абарвалася плённае жыццё іхняга музыканта. Я тады ўбачыла тыневіцкіх жанчын не па-святочнаму, на сцэне, у іхніх старых і каштоўных народных (гл. здымак) уборах, але ў горы, у працы і ў братэрскай лучнасці, узаемнай дапамозе і падтрымцы. І... з боязным пытаннем за далейшы лёс калектыву. Боязь, аднак, не датычыла таго, ці ўвогуле калектыву быць ці не быць. Не. Так ніколі ніхто не падумаў нават. Калектыў неўміручы. Трэба вось было толькі новага музыканта шукаць, бо Валя Франкоўская сваім гучным голасам адразу і рашуча заявіла: „Мы трохі цяпер будзем мець жалобу, а потым зноў будзем спяваць“.

І вось з радасцю чытаю, што тыневіцкі калектыў зноў спявае, зноў дыхае поўнымі грудзьмі.

Прыемна! Цешуся за тыневіцкіх жанчын і разам з імі. І бачыце, самі знайшлі музыканта-акампаніятара. Свой хлопец! Самавук. Любіць беларускую песню!

І ва ўсім гэтым, і яшчэ і ў тым, чаго выказаць не ўмею, ёсць веліч і вечнасць гэтых людзей і ўсёй нашай культуры, у якой кожны з іх пакідае след!

Таму я пастаянна чакаю новых Іванаў Дудзічаў, якія аб'явяцца і з новымі калектывамі пачнуць працу на народнай ніве, стануць уваскрасаць самі і ўваскрашаць песню і традыцыю.

Я ведаю, што таленты ёсць. Я ведаю, што ідзе новая змена. Выглядаю яе з моцным стукам сэрца і надзеяй.

Ніна Сільвеструк паведамляе таксама, што яны рухтуюць п'есу „Адведкі“. Кароткая гэта інфармацыя прымушае мяне шырэй заняцца ёю. Вельмі добра, што калектывы інсцэніруюць родныя абрады: адведкі, хрысціны, вяселлі, кудзельніцы і інш. Такім чынам тыя абрады і песні абрадныя, якімі абрад абспеўваецца, не будуць забыты. Больш, яны здабываюць новае грамадзянскае права жыць і ўзбагачаць сучасную культуру. Варта гэта рабіць! Варта вяртацца да невычэрпных крыніц народных, каб развівацца ўсебакова і па-сучаснаму.

Зацікаўленне абраднымі „сцэнкамі“ ў нас такое вялікае, што пастаноўкі такія ўвайшлі ў агляды БГКТ, а канцэрты (бо якраз канцэртамі хочацца назваць іх) такія прымаюцца гледачамі асабліва добра. Гэтую форму ў нашым мастацкім народным руху трэба вельмі галубіць. Тут надта важны той факт, што самі ж калектывы пішуць і ствараюць п'есу. Добра было б кожную такую п'есу мець запісаную і на паперы, і на магнітафоннай стужцы (тасьме).

Вернемся да тыневіцкіх „Адведкаў“. Неяк, капаючыся ў мужавых паперах неўзабаве пасля яго смерці, Ніна Сільвеструк знайшла некалькі лісткоў паперы, запісаных яго почыркам з загалоўкам „Адведкі“.

Ніна, паплакаўшы, паказала недакончаны сцэнарый жанчынам, а тыя ў адзін голас сказалі: дапішам і развучым, і пакажам людзям нашы адведкі — гэта будзе наш помнік Колю.

І вось чытаю: ставяць жанчыны помнік заслужанаму творцы і помнік культуры народнай.

Я чытала частку тыневіцкага сцэнарыя „Адведкі“ і хачу рэкамендаваць яго рэдактару „Беларускага календара“ на 1986 г. да друку з двайным прызначэннем: як мастацкі твор і дакумент эпохі і як рэпертуар для іншых ахвотных калектываў, якія апрацуюць, можа, уласную версію адведкаў.

**Вера Леўчук**

## З ЖЫЦЦЯ БГКТ У ВАРШАВЕ

У варшаўскім клубе БГКТ у сакавіку бягучага года праведзена шмат цікавых мерапрыемстваў.

7 III адбылася сустрэча з беларускім празаікам і журналістам з Гродна Уладзімірам Малашкевічам, які шмат гадоў жыў у Польшчы, з'яўляецца членам БГКТ у Варшаве і надрукаваў у „Ніве“ некалькі сваіх апавяданняў і артыкулаў. Малашкевіч расказаў прысутным аб сучаснай беларускай савецкай літаратуры і прачытаў сваё апавяданне з галіны фантастыкі „Тры пажаданні“.

9.III быў арганізаваны ўрачысты вечар, прысвечаны Міжнароднаму дню жанчын. Многіх прыгажунь, членаў БГКТ у Варшаве, прывітаў старшыня Галоўнага праўлення др А. Баршчэўскі і прачытаў ім некалькі сваіх вершаў. З вершамі, прысвечанымі жанчынам, выступіў таксама В. Швед, Хв. Галёнка прыгатаваў нашым прыгажуням пачастунак.

14 III Сакрат Яновіч з Беластока правёў цікавую гутарку на тэму становішча беларускай нацыянальнай меншасці ў Народнай Польшчы.

21 III паклоннікі музы В. Шведа ўрачыста адзначылі шасцідзесяцігоддзе з дня яго нараджэння. Вечар адкрыў старшыня гуртка БГКТ у Варшаве др. Алексяюк. Я. Жамойцін выступіў са змястоўнай ацэнкай літаратурнай творчасці паэта. На заканчэнне прысутныя на вечары сардэчна віншавалі юбіляра і ўручалі букеты цудоўных кветак.

28 III адбылася сустрэча з др Марыяй Чурак з нагоды выхаду з друку яе цікавай кніжкі „Камізм у беларускай народнай прозе“. М. Чурак расказала аб дасягненнях і бліжэйшых выдавецкіх планах працоўні беларускай мовы пры Інстытуце славяназнаўства Польскай акадэміі навук. Працоўняй кіруе дацэнт М. Кандрацюк, аўтар дзвюх манаграфій аб паходжанні назваў мясцовасцей на Беласточчыне. Толькі што выйшла з друку габілітацыйная дысертацыя М. Кандрацюка „Балтыцкія элементы ў тапаніміі і мікратапаніміі беластоцкага рэгіёна“.

**В. Ш.**

---

**ШЛЯХАМ ГАДОЎ**

## ПАЎНОЧНЫ ПАХОД

Наколькі мацнеючы саюз Дарагічынскага княства з яго паўночнымі суседзямі Прусіяй Яцвягіяй, Літвой, Гарадзенскім княствам і прыхільным да іх насельніцтвам Берасцейскага княства Казімір Справядлівы і яго дарадчыкі лічылі небяспечным для Мазоўша, Малапольшчы і саюзным з імі княствамі Валыні, паказваюць падзеі 1191-1192 гадоў.

Да паходу супраць гэтага „паўночнага саюза“ Казімір рыхтаваўся ў вялікай таямніцы і надта ж інтэнсіўна — рабіў усё дзеля таго, каб ударыць на праціўніка знянацку. Да таго быў вельмі дакладна прадуманы план правядзення гэтай аперацыі і старанна падрыхтаваны надзейныя вайсковыя сілы. Асновай плана было разбіць упасобку кожнага з праціўнікаў. Казімір любой цаною намагаўся не дапусціць, каб „паўночны саюз“ аб'яднаў свае сілы і разам даў яму вялікую бітву.

Праціўнік заўчасна не даведаўся пра падрыхтоўку да паходу, і Казімір паслядоўна ажыццяўляў свае намеры.

Перш за ўсё ён накіраваў мазавецкія дружыны супраць Прусіі, каб звязаць ёй рукі і выключыць яе дапамогу іншым. Калі тыя ўварваліся ў прускую зямлю і сцягнулі на сябе ўсе вайсковыя сілы прусаў, тады войскі Малапольшчы на чале з самім князем Казімірам ударылі на Дарагічынскае княства. Нашэсце было неспадзяванае і, мабыць, пагранічныя крэпасці хутка паддаліся. Аднак сталіца княства — вялікі і заможны Дарагічын — паспела наладзіць моцную абарону, і Казіміравым дружынам не ўдалося „з ходу“ яе захапіць. Пачалася аблога.

Першыя прыступы малапалян на вышэзныя і стромкія валы дарагічынскай крэпасці яе абаронцы ўдала адбілі. Была зіма, стаялі маразы. Дарагічане лілі ваду на гладкія гліняныя стокі валаў і адхоны гары, на якой высілася крэпасць, і яна стала непрыступнай ледзяной цвярдыняй. Густы дождж стрэлаў ды лавіна камення збівала кожнага, хто толькі наважыўся ўскараскацца на яе. Забітых і параненых малапалян прыбывала. Казімір небеспадстаўна баяўся, што аблога можа зацягнуцца і прынесці вялікія страты ў яго войску, а тым часам на дапамогу Дарагічыну прыдуць яцвягі ці гарадзенцы і тады ўвесь яго паход праваліцца. І ён пачаў перамовы з дарагічынскім князем.

Перамовы не зацягнуліся і іх вынікі, відаць, адпавядалі абодвум бакам. Дарагічынскае княства, мабыць, абавязалася выйсці з „паўночнага саюза“ і не прапускаць праз сваю тэрыторыю на Мазоўша, Малапольшчу і Валынь прускіх, яцвяжскіх і літоўскіх дружын, а таксама дазволіла Казіміравым войскам спакойна прайсці праз дарагічынскую зямлю ў Яцвягію. У замен за гэта Казімір абавязаўся захаваць у непарушным дагэтуляшнім стане Дарагічынскае княства і гарантаваў яго самастойнасць.

Як было прынята ў тыя часы, калі пагадненне ўладзілі, тады абодва князі — кракаўскі і дарагічынскі — прысягнулі яго захаваць і дзеля гэтага разам пацалавалі той самы крыж. Адбылася гэтая ўрачыстасць, пэўна, у Багародзічнай царкве, якая ўжо тады красавалася ў цэнтры дарагічынскай крэпасці.

Казіміравы дружыны рушылі на поўнач праз Дарагічынскае княства старым міжнародным шляхам, які праходзіў паўз крэпасці Бранск на рацэ Нурцы, Сураж і Візна на Нарве. За Віз-

(Працяг на стар. 4)




### НЯЎЖО НЕ РАЗУМЕЕ?..

Выйшаў з друку праваслаўны ўкраінскі каляндар на 1985 год. Гэтае выданне з'явілася незалежна ад штогодняга праваслаўнага календара на польскай ды рускай мовах. Нічога ў гэтым няма ненатуральнага, калі памятаць пра тое, што- ёсць у Польшчы некалькі соцень тысяч праваслаўных украінцаў, і яны хочуць атрымліваць рэлігійную паслугу на сваёй роднай мове. Даведваемся адначасна, што багаслужбы ў цэрквах ва ўкраінскіх асяроддзях адбываюцца на роднай мове іх вернікаў.

У сувязі з тым узнікае законнае пытанне: чаму няма дагэтуль беларускага праваслаўнага календара, хоць сярод масы праваслаўных беларусы дамінуюць у абсалютных ліках. І чаму не чуваць пра багаслужбы на нашай роднай мове? Няўжо Бог не разумее па-беларуску?!

**С. Я.,** Беласток

### ЦЁТКА

Адказваю на вашу прапанову, якая датычыць выбару патрона Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы.

Па-мойму, заслугоўвае на гэта Цётка — Элаіза Пашкевіч, паэтэса, публіцыстка, настаўніца. Яе вершы, артыкулы ўзнімалі і ўзмацнялі дух беларусаў. Ад яе і я чэрпаў натхненне і бадзёрасць.

**Рышард Бутайла.**

### НУ Й ВАДЫ!!!

З вельмі вялікім зацікаўленнем прачытаў я даследаванне Алеся Барскага пад загалоўкам „Аб акіяне".

Алесь Барскі цудоўна правёў аналіз паміж Атлантычным акіянам і Балтыйскім морам, якое параўнаў з капанькай, у якой мізэрненькая, брудная вадзіца. Што арол, то арол. Я, бедная варона, цэлы год пражыў у Калабжэгу, нават быў на мола, ды на дзесятым паверсе аднаго з гатэляў, а ўсё ж шведскага берага не ўбачыў. Я, прастак, калі глядзеў на мора, бачыў мора, а калі азірнуўся за сябе — бачыў пясчаны грунт, горад, людзей, якія кормяць чаек.

Нездарма ж такіх нікуды не пускаюць. Навошта, калі ён і так не адрозніць мора ад акіяна? Барскі адным поглядам вока ацаніў веліч і сілу Атлантычнага акіяна... Стоп, стоп. Я ўжо зразумеў, як ён гэта зрабіў. Пішучы гэтыя словы, мне прыйшло ў галаў паглядзець на карту міра. Сапраўды, намнога большы акіян (Атлантычны) ад Балтыйскага мора. Але ж гэта можна адрозніць на карце, а не стоячы на пляжы. Бо, калі б Алеся Барскага над акіянам упаілі да непрытомнасці і прывезлі на мора хуценька, самалётам, ды запыталі, дзе ён знаходзіцца, над морам, ці над акіянам, то ён, несумненна, сказаў бы, што над акіянам у Злучаных Штатах Амерыкі.

Вада, вада. Кругом вада, як спяваецца ў савецкай песні. А без вады ні туды і ні сюды.

**Васіль Петручук**



Старая Саколка. Фота М. Гайдука.

# КАРЫСНЫ ЗРУХ

Актывізацыі працы гурткоў БГКТ было прысвечана пленарнае пасяджэнне Сакольскага аддзела БГКТ, якое адбылося 24 сакавіка г.г.

Сяргей Крышань — намеснік старшыні аддзела звярнуў увагу на новы статут, які быў прыняты Х з'ездам БГКТ, і расказаў пра тыя яго раздзелы і параграфы, якія беспасрэдна датычаць праўленняў аддзелаў і гурткоў нашай арганізацыі. Выказаў пры гэтым шмат сваіх думак і прапаноў.

— Неабходна нам адважная пастава ў карыстанні беларускай моваю. З гэтай справай на Сакольшчыне дрэнна. Калі едуць людзі аўтобусам у Саколку, гавораць спачатку на беларускай мове, а ўжо, як правіла, перад Саколкай большасць пасажыраў пачынае гаварыць выключна на польскай мове. Ці ёсць падставы да таго, каб баяцца ці сароміцца роднай мовы?

Далей звярнуў ён увагу на адсутнасць беларускай мовы ў школах і на адсутнасць у іх мастацкай самадзейнасці з беларускім рэпертуарам:

— Раней з гэтым было лепш. Раней было не менш 8 мастацкіх калектываў — тэатральных і харавых на базе школ.

Сяргей Крышань затрымаўся над справай арганізацыі народных фэстынаў. Запрапанаваў ён, каб кожны гурток уключыўся ў яго арганізацыю, каб кожны гурток унёс свой уклад у яго мастацкую частку:

— Няхай гэта будзе песня, няхай вершык, тэатральная сцэнка, музыка, казка, анекдот, ці нешта іншае. Няхай гэта будзе фэстын усіх гурткоў БГКТ, свята ўсяе нашай арганізацыі.

Аляксандр Рафаловіч, сакратар аддзела, паінфармаваў прысутных аб пастановах прэзідыума аддзела, на якім усім членам пленума і рэвізійнай камісіі былі прыдзелены заданні апекавацца над паасобнымі гурткамі і дзейсна ім дапамагаць. Далей гаварыў ён аб працы гурткоў.

— Некаторыя гурткі праяўляюць належную актыўнасць. Да іх трэба залічыць гурток у Слоі. які ў мінулым годзе шмат працы ўлажыў у арганізацыю фэстына. У бягучым годзе там усе члены БГКТ ужо ў лютым у 100 прац. аплацілі членскія складчыны. А гэта ж асноўны, элементарны абавязак, які сведчыць аб сувязі члена са сваёй арганізацыяй. У 100 прац. аплацілі членскія складчыны нашыя сябры з Гаркавіч, а таксама з Крынак. А БГКТоўцы з Сухініч не толькі аплацілі складчыны за бягучы год, але ўплацілі яшчэ 790 зл. на будову музея.

Аляксандр Шчэбёт у сваім выступленні сцвердзіў, што ў апошні час значна ажывілася дзейнасць БГКТ на Сакольшчыне, наступіў адчувальны яе зрух. Моцна падкрэсліў ён выхаваўчае значэнне беларускіх радыёперадач, якія перадае Беластоцкае радыё ў кожную суботу ў 18 гадзін.

Аляксандр Піруга і Пётр Нядзелін закранулі справы ўмелага зацікаўлення дзяцей навучаннем роднай мовы ў падставовых школах. Без супрацоўніцтва з асветнымі ўладамі, без размовы з бацькамі і без дапамогі настаўнікаў дасягнуць гэтага немагчыма.

Патрэбна супрацоўніцтва са школамі. Варта, каб аддзел арганізаваў мерапрыемствы для школьнікаў, напрыклад, кулік, — даказваў Анатоль Шагаловіч.

Аб бягучай дзейнасці Прэзідыума ГП інфармаваў удзельнікаў пленума намеснік старшыні ГП Кастусь Майсеня, а член Прэзідыума ГП Міхась Хмялеўскі гаварыў аб неабходнасці супрацоўніцтва праўлення аддзела з мясцовымі арганізацыямі і ўстановамі.

На заканчэнне пленума выступіў старшыня праўлення аддзела Мікалай Байгуз, які прапанаваў гурткам праводзіць адкрытыя сходы з тэматыкай свайго асяроддзя, уключна з нацыянальнымі пытаннямі, а там, дзе не ўмеюць чытаць на беларускай мове, чытаць калектыўна важнейшыя артыкулы з „Нівы".

— Варта таксама запрашаць на спатканні пісьменнікаў літаратурнага аб'яднання „Белавежа", журналістаў „Нівы" і іншых цікавых людзей, — гаварыў ён.

Асабліва падкрэсліў ён неабходнасць разбудовы радоў БГКТ.

— 10 гурткоў. а ў іх 200 членаў, гэта на Сакольшчыне недастаткова. Трэба павялічыць колькасна існуючыя гурткі і ўтварыць іх у тых вёсках, дзе жыве беларускае насельніцтва, а да гэтага часу няма там нашай арганізацыі. Трэба арганізаваць гурткі БГКТ на прадпрыемствах і ва ўстановах. Ужо зроблены захады, — гаварыў старшыня, — адносна стварэння гуртка БГКТ на Сакольскай фабрыцы будаўнічай сталяркі.

Трэба сцвердзіць, што пленум даў жыццедайны штуршок да актыўнейшай працы гурткоў БГКТ.

**Міхась Сваяк**

(Працяг са стар 3)

# ПАЎНОЧНЫ ПАХОД

най шлях паварочваў на паўночны ўсход, у напрамку Райгарада — аднаго з найважнейшых цэнтраў Яцвягіі.

Ці то з-за нечаканасці нашэсця, ці то па прынятаму спосабу абароны, але яцвягі не адразу далі бой Казіміраву войску. Магчыма, што сілы яго былі пераважаючыя, і абаронцы пазбягалі сутычак з ім. „Не столькі з-за баязлівасці, колькі дзеля хітрай засады пахаваліся ў гушчэчы", — заўважае пра яцвягаў сярэднявечны польскі храніст Вінцэнт Кадлубак. Магчыма і на самай справе ў яцвягаў быў такі спосаб абароны: уцягнуць войскі праціўніка як мага глыбей у сваю тэрыторыю, завабіць у непрыгодную для іх мясцовасць (багны, дрыгва, балоцісты лес), быццам у пастку ліхога звера, заваліць яму засекамі дарогу назад і тады, хаваючыся за ўкрыцці, расстрэльваць з лукаў вояў ворага. З такім спосабам барацьбы яцвягаў з наезнікамі мы часта будзем сустракацца праз усё наступнае стагоддзе. І гэты спосаб даваў нядрэнныя вынікі.

Польскія войскі ўваходзілі ўсё глыбей у яцвяжскую зямлю, палілі сціrты неабмалочанага збожжа, абярталі ў папялішчы вёскі і малыя крэпасці, пакідаючы пасля сябе пустэчу, але нідзе не сустрэлі ніводнай жывой душы. Урэшце неяк удалося ім знайсці сувязь з яцвяжскім князем, але той, нягледзячы на знішчэнні краіны, не хацеў паддавацца. Потым жа, калі польскія войскі, мабыць, апынуліся ўжо ў нарыхтаванай для іх пастцы, яцвяжскі князь прыступіў да перамоваў. Як піша той жа Кадлубак, яцвяжскі князь прызнаў Казіміру перамогу над ім, абяцаў плаціць яму даніну і даць заложнікаў для загарантавання міру. Польскі князь задаволіўся гэтымі абяцаннямі, бо дасягнуць большага, мабыць, не мог, павярнуў свае войскі назад і рушыў у напрамку Візны. І тут іх чакала прыкрая неспадзяванка. Шлях аказаўся заваленым засекамі. З-за кожнага завалу, паасобнага камля, а нават з верхавін дрэваў сыпнулі стрэлы, паляцела каменне. Разгарэлася бітва ў такім месцы і такая, як хацелі яцвягі. Яна праходзіла ў вельмі некарысных для польскага войска варунках. Аднак хоць і з вялікімі стратамі, яно ўсё ж перамагло. Яцвяжскі князь пацвердзіў ранейшыя свае абяцанні, і Казімір з моцна парадзеўшымі дружынамі паспешліва вярнуўся ў Кракаў.

Мабыць, па дарозе назад Казіміравы воі мірна прайшлі праз Дарагічынскае княства. Яны былі надта ж аслабленыя паходамі і бітвай у Яцвягіі, каб сцягваць на сябе новую небяспеку. Таксама дарагічынскі князь, зведаўшы пра прайграныя прусамі і яцвягамі бітвы, не хацеў парываць карыснага для свайго княства пагаднення з Казімірам. Відаць, ніводнаму з бакоў не хацелася новай бітвы. Хоць найбольш пацярпеўшым аказалася Дарагічынскае княства. Па-першае, падчас нашэсця Казіміра і

(Працяг са стар. 1)

стання аграмадных і высакаякасных залежаў гліны.

✼ Дбайнае выкарыстанне зямлі, каб яна давала яшчэ лепшы плён, каб больш было мяса і малака.

✼ Арганізацыя грамадскай актыўнасці жыхароў гміны дзеля супольнага дзеяння пры пабудове дарог і іншых аб'ектаў шляхам грамадскага пачыну.

✼

Вакол гэтых справаў і праблем у асноўным і засяроджвалася ўвага ўдзельнікаў арлянскай партыйнай справаздачнай канферэнцыі.

Для Орлі гэтыя справы не новыя. Пра іх гаварылася ўжо і дваццаць гадоў таму назад. Толькі неяк не хапала паслядоўнасці, каб давесці гэтыя справы да паспяховага вырашэння, нават тады, калі ў нашай краіне даволі лёгкай рукой адводзіліся грашовыя сродкі на ўсялякія новыя будоўлі.

Дык як жа вырашэнне гэтых спраў выглядае цяпер? Што ж, таксама не найлепш, бо трэба зараз мець сапраўды вялікую адвагу, каб у час гаспадарчага заняпаду патрабаваць мільярдных сум на новыя капіталаўкладанні.

У Орлі адважыліся і на гэта. Маючы за сабою падтрымку мясцовага насельніцтва і яго грамадскую ахвярнасць, сакратар Кубаеўскі разам са сваімі таварышамі абстукаў усе магчымыя парогі і дзверы, каб дабіцца прыхільнасці для занядбанай Орлі.

І чаго дабіўся?

**Школа** — пабудова распачнецца ў 1986 годзе. Ёсць ужо грошы, знаходзіцца яна ў ваяводскім плане пабудовы асветных будынкаў. Школа з шаснаццаццю заламі, сталовай, фізкультурнай залай, тэхнічнай майстэрняй, памяшканнямі для настаўнікаў, спартыўнай пляцоўкай і ўсім іншым, што неабходнае для сучаснай дыдактыкі.

**Гмінная амбулаторыя** — таксама пачатак пабудовы яе ў пачатку 1986 года, хаця раней адміністрацыя па ахове здароўя перасунула была тэрмін гэтай пабудовы аж на 1990 год. Усе сілы Арлянскай гміны — ПАРП, ПРОН і ГРН — проста сталі адной сцяною, каб адмяніць гэтае рашэнне — і ўдалося.

**Перабудова даўнейшай сінагогі** — ужо распачалася. Пасля 35 гадоў захадаў і патрабаванняў гэта першая наяўная перамога сакратара Кубаеўскага на шляху да арлянскага ўзлёту пасёлка Орля.

**Пабудова керамічнага прадпрыемства** — таксама справа не новая. Вядома здаўна, што Орля стаіць на гліне. Пластом звыш 12-метровай таўшчыні гліна пад Орляй распасціраецца на паверхні ў 50 квадратных кіламетраў. Багацце, якога і на сто гадоў хопіць. Праца над праектам вялікага, па-сучаснаму абсталя-

# АРЛЯНСКІ ЎЗЛЕТ

ванага прадпрыемства ўжо распачалася. Вядзе яе Беластоцкае керамічнае аб'яднанне. Прысутны на канферэнцыі ў Орлі дырэктар гэтага аб'яднання Яўгеній Хверась, на жаль, паведаміў прысутным, што пабудову гэтага прадпрыемства прыдзецца перакласці на 1990 год. Няма грошай. А трэба нейкіх паўтара мільярда грошай. Калі б дапамог ваявода... І была па гэтай справе інтэрпеляцыя да ваяводы. Выступала з ёю радная з Орлі Валянціна Карэйка. Ваявода адказаў, што прадпрыемства керамікі не падпарадкаванае яму, а міністэрству, і ваявода не мае права адводзіць якіх-колечы грошай у карысць гэтага прадпрыемства.

У Орлі, аднак, не патрацілі яшчэ надзеі. І я веру, што Ян Кубаеўскі даб'ецца свайго і пабудова вялікай цагельні распачнецца цераз год, а найдалей — цераз два гады.

**Зямля.** Тут шмат крытычнага ў адрас сваіх землякоў сказаў начальнік Зіневіч. Зямля ў Арлянскай гміне па якасці лічыцца не найгоршай, яна крыху перавышае сярэднюю ваяводскую. Аднак, яе выкарыстанне далёка адстае ад перадавога ўзроўню. Ёсць вёскі і гаспадары, дзе, для прыкладу, мінулай восенню не прымянілі ані грама мінеральных угнаенняў. Зусім занядбаны тут кантраляваны расплод рагатай жывёлы. Ёсць гаспадары, якія прадаюць дзяржаве прадуктаў сваёй працы на 120 тысяч зл. у год, але знаходзяцца і такія, якія да 20 тысяч не дацягваюць. У вёсках Арлянскай гміны ўжо трэці год больш людзей памірае, чым родзіцца.

І ўрэшце **гдамадская актыўнасць** насельніцтва. У гэтай галіне асабліва вылучыліся жыхары вёсак: Кашалі, Шэрні, Пашкоўшчына, Маліннікі, Вулька Выганоўская і самі арлянцы.

✼

Канферэнцыя аднагалосна прыняла рэзалюцыю, у якой поўнасцю адабрае дзейнасць гміннага камітэта ПАРП у Орлі і яго экзекутывы пад кіраўніцтвам Яна Кубаеўскага.

Орля апынулася на чарговым этапе свайго арлінага ўзлёту ў будучыню.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



Орля. Фота Я. Целушэцкага.

да часу заключэння ім з дарагічынскім князем пагаднення была разграблена і спалена значная частка княства, асабліва тая, што прасціралася на поўдзень ад Дарагічына. Падругое, падчас аблогі дарагічынскай крэпасці былі зніштожаны і спалены неўмацаваныя паселішчы рамеснікаў, купцоў, сялян і іншага працоўнага гарадскога люду, а таксама прыстань на Бузе, умёрзлыя ў лёд судны і лодкі. Па-трэцяе, у тыя часы войска ішло без абозаў, харчы і ўсё яму неабходнае здабывала там, кудою яно праходзіла. Няцяжка ўявіць сабе, якая пустэча засталася паўз шлях, па якім праз усё Дарагічынскае княства, з поўдня на поўнач і затым назад, прайшла шматтысячная армія Казіміра Справядлівага. Так, гэта быў цяжкі ўдар Дарагічынскаму княству, ад яго яно страшэнна паслабла.

Можа выклікаць здзіўленне, чаму ў паходзе Казіміра не было яго пляменнікаў: князёў белзскага і берасцейскага Усевалада і асабліва Казімірава любімца — уладзімірскага Рамана. Як відаць з пазнейшых падзей, паміж князямі-братамі якраз тады нарастала і мацнела варожасць, якая ў любы момант магла абярнуцца ў адкрытую вайну. Таму што Раманка аніяк не мог пагадзіцца з тым, што Берасцейскае княства знаходзіцца ў братавых руках, а Усевалад не збіраўся яго ўступаць яму. Відаць, надта ж панадным кавалкам была Берасцейшчына, нават страшэнна паграбленая і выселеная ўсяго некалькі год таму назад! І Казімір быў задаволены з таго, што ў такім крытычным часе браты не кінуліся адзін другому да горлаў. Затым, відаць, яны абодва атрымалі ад яго спецыяльнае заданне. Прыгадайма, што ў „паўночны саюз“ апрача Дарагічынскага княства, Прусіі і Яцвягіі, уваходзіла Гарадзеншчына і Літва. Якраз трымаць іх пад пагрозай атакі і было заданнем валынскіх пляменнікаў Казіміра. І гэта яму ўдалося, бо ў летапісах не чуваць, каб тады Літва і Гарадзеншчына ўмяшаліся ў вайну.

Такім чынам вялікі паўночны паход Казіміру Справядліваму ў значнай ступені ўдаўся. Кракаўскі князь паўстрымаў нарастанне моцы „паўночнага саюза“ г.зн. Дарагічынскага, Гарадзенскага і блізкага ім Берасцейскага княстваў з Прусіяй, Яцвягіяй і Літвой, паслабіў сувязі паміж гэтымі краінамі, падняў у іх вачах аўтарытэт Польскай дзяржавы і на некалькі год адбіў ахвоту ваяўнічым яцвягам і літоўцам нападаць на Мазоўша, Малапольшчу і Валынь, а дарагічынцам і берасцейцам прапускаць іх праз свае землі ды заахвочваць да гэтых знішчальных нападаў. Аднак усяго толькі на некалькі год.

Праз тры гады пасля „паўночнага паходу“ раптоўна памірае Казімір Справядлівы (5 мая 1194 г.), пакідаючы двух сыноў-малалеткаў — Лешка і Конрада. Пасля Казіміра праз год памірае ў Белзе князь Усевалад Мсціславіч, на княскі пасад уваходзіць яго сын Аляксандр. І так, насталі новыя князі, змянілася сітуацыя ў суседніх землях і па-іншаму пайшлі падзеі на Пабужжы і Панароўі. Але пра гэта ў наступным адрэзку.

**Мікола Гайдук**




## АЛЕ НА ДУШЫ ЦЯЖЭЙ

Сёння, калі расказваем, якое перад вайной было цяжкое жыццё, маладыя не вераць, гавораць, што мы калісь не ўмелі жыць. Ці ж гэта можа быць праўда?

У вельмі цяжкі для мяне час за санацыі да нас прыехаў з Францыі дзядзька Юлік. Родам ён з Супруноў. Прыехаў якраз на Вялікдзень. Ён сказаў: вы тут на Вялікдзень добра ясце, але я ў Францыі кожны дзень лепш ем і віно п'ю колькі хачу.

Дзядзька Юлік канешне хацеў забраць мяне ў Францыю і завезці абяцаў на свой кошт. Бацькоў пры кім пакінуць у мяне было — быў брат жанаты, але шкадаваў я пакінуць усё сваё роднае, родную мову і ехаць у чужыну.

Пасля вайны таксама не падаўся ў горад. Не таму, што не ўмеў бы жыць у горадзе і не таму, што нідзе не бываў апрача сваёй вёскі. Я быў у бежанстве тры гады, у горадзе Маскве. Пасля вайны зноў пабываў у Маскве два разы і таксама быў у Растове на Дану. А перад вайной быў у Варшаве. І веласіпедам праехаў шлях: Брэст, Владава, Красны Стаў, Хэлм, Замасць. У Тамашаўскі павет у вёску Вішняў ехаў, да жончынай цёткі, якая выйшла туды замуж у бежанстве. Ехаў двое сутак, ды яшчэ здарылася няўдача: у васьмі кіламетрах за Брэстам у веласіпедзе зламалася воська. Я пехатою вярнуўся ў Брэст да слесара. Слесар змяніў цэлую перакладню і за гэта ўзяў 16 зл. — усе грошы, якія ў мяне былі. І я ўсё ж адважыўся ехаць у такую дарогу без граша. Мне тады ішоў 25 год і толькі год было, як ажаніўся, у нас было малое дзіця. Назад з далёкай стараны ехаў з хваляваннем і спешна. На паўтара сутак адпачываў можа гадзіну ў прыдарожнай адчыненай клуні, абняўшы рукой раму веласіпеда, каб хто не ўкраў.

Пасля вайны давялося быць у Лодзі, Вроцлаве, Шчэціне, Жарах, Люблінe і над ракой Нысай. Усюды вельмі прыгожа, а ўсё роўна, здаецца, ні за якія грошы там не захацеў бы жыць.

**Многа беларусаў жыве ў далёкіх польскіх гарадах. Так выйшла. А зноў з цэнтральнай Польшчы ў нас многа людзей працуе на розных пасадах.**

**Адзін савецкі чалавек гаварыў, што ў сацыялізме ўсюды айчына, але ўсё роўна кожнага да свайго цягне.**

**У нашай вёсцы цяпер дваццаць хат. Адыйшло ў горад 43 чалавекі.** У чатырох хатах ужо даўно ў вокнах няма святла і хіба не будзе, бо хаты гэтыя ўжо валяцца. Адной хаты ўжо не пазнаеш, дзе стаяла.

Людзі сёння ўсё маюць. Маюць за што выпіць, чым закусіць і лягчэй працуюць. Але на душы цяжэй. Мала маладых жанчын у вёсцы, а старэйшая кожная кульгае на адну ці на другую нагу — можа ад гумовых ботаў, або ад райстопаў са штучнага валакна.

Пару хлопцаў засталося ў вёсцы, а дзяўчат зусім няма.

**Ф. Хлябіч**

# У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ на сваім чарговым пасяджэнні 29 сакавіка займаўся наступнымі праблемамі.

Абмеркаваў справы, закранутыя падчас сустрэчы прадстаўнікоў Прэзідыума з сакратарыятам Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку (6.2.85 г.), якія датычылі бягучай дзейнасці БГКТ.

Разгледзеў пытанні, звязаныя з набліжаючымiся выбарамі ў Сейм і роллю БГКТ у гэтай кампаніі.

Вырашыў некаторыя арганізацыйна-кадравыя справы ГП.

Прэзідыум вырашыў таксама як найлепш адзначыць дзве вялікія гадавіны — 40-годдзе падпісання дагавору паміж Польшчай і СССР аб дружбе і супрацоўніцтве і 40-годдзе перамогі над гітлераўскай Германіяй. (мх)

## МОЦНАЕ ЗВЯНО

Аб святліцах, клубах і іх дзейнасці пішацца многа. Але аб такім клубе і яго дзейнасці, як у Тыневічах Вялікіх, трэба абавязкова яшчэ напісаць, тым больш, што ёсць нагода.

19 сакавіка 1985 г. тут адбыўся чарговы сход гуртка БГКТ. На сход прыехалі намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня і старшыня аддзела БГКТ гміны Нарвы інспектар асветы гміны мгр Юрка Хмялеўскі.

У гуртку адбыліся выбары новага праўлення. Ролю старшыні прысутныя даверылі Ніне Сільвеструк, намеснікам стаў Віталіс Садоўскі, сакратаром — Анна Хірко, а касірам — Ольга Свентахоўская.

Прысутныя гаварылі аб сваёй працы, аб вялікіх дасягненнях жаночага фальклорнага калектыву. Жаночы беларускі калектыў у Тыневічах — гэта моцнае звяно ў нашай культурнай дзейнасці і яму трэба памагаць, яго шанаваць, ім ганарыцца.

Вельмі шчыра гаварылася на сходзе аб беларускай культуры, музеі і экспанатах для яго, навучанні роднай беларускай мовы.

Члены гуртка БГКТ у свой план працы ўключылі многа цікавых мерапрыемстваў.

Гледзячы на гэты калектыў, на клуб, можна паверыць, што ў хуткім часе станем сведкамі новых цікавых дасягненняў.

Ніна Ляўчук — дырэктар школы і Соф'я Асташэўская — гаспадар клуба з вялікім хваляваннем расказалі аб конкурсе на найлепшы клуб „Рух" у 1984 г. Ёсць у ваяводстве многа клубаў, але першае месца заваяваў клуб у Тыневічах. З гэтай нагоды клубовая С. Асташэўская атрымала ўзнагароду (5 тыс. зл.), а клуб на свае патрэбы — узнагароду 80 тыс. зл. і прыгожы крыштальны кубак.

На сходзе гаварылася і аб некаторых недахопах, напрыклад, што ў клуб на чытальню не прыходзіць аніводзін нумар „Нівы", што на вулічных слупах у вёсцы не гарыць аніводная лямпачка.

В. Б.



Нашыя спевакі. Антаніна Негярэвіч з в. Сухавольцы гм. Кляшчэлі.
Фота М. Гайдука.

## З ЖЫЦЦЯ БГКТ У АРЛЯНСКАЙ ГМІНЕ

### Грэдалі

13 лютага тут адбылася сустрэча гуртка БГКТ з інспектарам ГП БГКТ на Бельшчыну Аннай Бжазоўскай. Быў абмеркаваны план працы на 1985 г.

### Кошкі

23 лютага А. Бжазоўская сустрэлася з гуртком БГКТ. Прайшла шырокая дыскусія аб дзейнасці таварыства. Гаварылася, што ўсе члены БГКТ павінны выпісваць і чытаць „Ніву". Таксама аб тым, што трэба шукаць экспанатаў для музея. Падкрэслівалася, што патрэбна больш узносаў у фонд музея. Быў прыняты план працы на 1985 год, усе члены гуртка заплацілі складчыны на бягучы год

### Міклашы

9 сакавіка Анна Бжазоўская сустрэлася з гуртком БГКТ у Міклашах. Быў прыняты план працы на новы год. Наракалі людзі на тое, што перастаў дзейнічаць у іх клуб „Рух". Ёсць у вёсцы прасторная зала. На жаль, без паловы крэсел.

### Кашалі

10 сакавіка ў вясковай святліцы адбыўся сход гуртка. Прысутнічала Анна Бжазоўская. Гаварылася аб працы таварыства. 4 асобы ўступілі ў рады БГКТ. Сабраныя прад'явілі інспектару свае жаданні. Каб выступілі ў іх „Васілёчкі", каб арганізаваць сустрэчу з пісьменнікам, каб мастацкі калектыў таварыства з Беластока захацеў да іх прыехаць. (аг)

# „АЖАНІСЯ, ВЕСЯЛІСЯ"—БЕЛАРУСКАЯ КАМЕДЫЯ

У Бельскім доме культуры адбыўся спектакль „Ажаніся, весяліся" ў пастаноўцы аматарскага гуртка БГКТ з Беластока.

Спектакль беластоцкіх артыстаў складаўся з трох частак: першая — „Паўлінка" Янкі Купалы, другая „Як жаніўся сучасны хлопец" — апрацоўка Янкі Крупы і трэцяя — „Прымакі" Я. Купалы. Пастаноўку падрыхтаваў Янка Крупа і толькі восем асоб прымала ў ёй удзел.

Акцёраў было мала і таму кожны іграў у кожнай п'есе. Аднак ролі былі падзелены добра і дапасаваны да характару кожнага артыста. Аб добрай падборцы роляў сведчыць прыклад Уладзіміра Федарука, які ў „Паўлінцы" іграў багатага пана Адольфа Быкоўскага, чалавека бурклівага, няздольнага да ніякіх пачуццяў. Ён не заўважаў таго, што маюць іншыя, ён толькі хваліўся сваім багаццем.

Па-мойму, цяжкія ролі мелі Янка Крупа і Віктар Байгус — яны ігралі п'яніц. Можна сабе ўявіць, як цяжка цвярозаму чалавеку іграць ролю п'яніцы. Аднак іх ролі былі найбольш цікавымі, гумарыстычнымі. Адной з цікавейшых была сцэнка, калі Быкоўскаму не спадабаліся беларускія народныя песні і ён сам пачаў спяваць. Сапраўды, трэба мець многа адвагі і таленту, каб так зайграць.

І так я дайшла да народных песняў. Аб іх я магу сказаць толькі тое, што былі цудоўныя! Таксама лічылася тут выкананне. Выконвалі іх дзве жанчыны, якія спявалі тыповымі вясковымі галасамі.

На высокім узроўні стаяла таксама выкананне танцаў. Танцы гэтыя многія з нас бачылі першы раз, асабліва ж спадабалася „Лявоніха".

У другой частцы спектакля гумару было яшчэ больш, чым у першай. Паказалі нам акцёры, як сучасны хлопец хоча ажаніцца, а адначасова яго бабка расказвае дзяўчыне аб усіх хлопцавых грахах.

У „Прымаках" зноў былі танцы і многа гумару. На працягу цэлага спектакля не адчувалася, што акцёры гавораць вывучаны тэкст. Добра таксама былі дапасаваны паасобныя часткі, якія складалі адну жывую каляровую пастаноўку.

Выпадае нам толькі жадаць, каб падобных пастановак было больш і каб драмгурток БГКТ мог з імі да нас прыязджаць яшчэ і яшчэ. Гледачоў напэўна не забракне.

Людміла Максімюк

**ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ**

# МАГІЛА ЛЯ ДАРОГІ

Данута ліцэя не закончыла. Не таму, што навука давалася ёй цяжка, бо была яна здольнай вучаніцай. Можа толькі зашмат абы-чаго нервавалася, хвалявалася. Здаралася, настаўнік выкліча яе да адказу, а яна ўстане і глядзіць неяк дзіўна ды маўчыць, як бы нічога не чула, аб чым яе пытаюць. Але вучылася добра. Кожны год атрымоўвала кніжныя ўзнагароды за выдатныя вынікі, а таксама пасылалі яе на краязнаўчыя экскурсіі. Аднак, чамусьці прыйшла яна да вываду, што дзевяць класаў агульнаадукацыйнай школы поўнасцю задаволяць яе жыццёвыя патрэбы, і рашыла спыніць навуку. Гэтыя дзевяць класаў лічыліся „малой матурай". Поўны атэстат сталасці атрымоўваў вучань пасля адзінаццатага класа, улічваючы ў гэта і сем класаў падставовай школы.

— Мы хацелі, каб яна вучылася далей, — талкавала мне пані Цабаёва.

— Хацелі, — дадаў Андрэй Цабай, — каб яна закончыла вялікую матуру і паступіла ў Беластоцкую медыцынскую акадэмію, каб стала лекарам, як я ёй калісьці абяцаў, калі мелі яе ад нас забраць; тады ж гаварыў я ёй, што доктарам да нас вернецца...

— А яна не захацела, — прадаўжала яго жонка. — Мяне яна пашкадавала. Кажа: мамачка, я ж бачу, як ты цяжка працуеш, бачу і сэрца мне баліць, што я над кніжкамі, а ты ў полі і дома. Я буду табе дапамагаць, пайду на работу, грошай крыху зараблю і нам усім лягчэй будзе. З маёй адукацыяй я ўсюды знайду працу.

І сапраўды, не было цяжка абсталявацца на працу пасля дзевяці класаў агульнаадукацыйнай школы. Гэта толькі цяпер выпускнікоў ліцэяў лічаць у нас як людзей, якія адарваліся ад зямлі, а да неба не даскочылі, дык невядома, што з імі рабіць. Тады, у пяцідзесятых гадах, у такіх мясцовасцях, як Міхалова, нават на адказных пасадах знаходзіліся людзі з адукацыяй не вышэйшай, чым сямікласная школа.

...І так ужо асталося. На 19-ым годзе жыцця Данута выйшла замуж, абзавялася дзецьмі, акунулася ў шэрую штодзённасць сямейных клопатаў.

— Яна ніколі ад нас не адвярнулася! — з гордасцю сцвярджае Яніна Цабаёва. — Нават тады, калі ўжо даведалася, што яна ад рускіх бацькоў, ніхто не змог нас пасварыць. Выбіраецца, бывала, у горад, значыць, у Беласток, за пакупкамі, дык абавязкова і да мяне забяжыць. Мамусю, кажа, што табе купіць? А часценька здараецца, што і сама не пытаўшы, навязе ўсялякіх падарункаў, аж слёзы радасці з вачэй паплывуць.

— Дануся, навошта ты ўсё гэта? Столькі ж грошай! — гавару ёй, а яна мне ў адказ:

— Ай, мама, не гавары! Неяк пражывем. У мяне добры муж, ён стараецца.

...І тут пры лёсе гэтай жан-

**ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ**

# ЯК ТОЙ КАЗАЎ

— Яна, як пасварыцца, то з нікім не гаворыць, хоць сварку сама пачне. Невядома, да чаго прычэпіцца, а пасля і забудзеш, у чым справа. Усіх багоў і чарцей прывядзе, наляскае языком, заплюецца, вызаве ад найгоршых тваю маці-прамаці, як той казаў. А пасля пачне ляментаваць, якая Яна бедная, нешчаслівая, а гэтыя суседзі, людзі дзікія, хам'ё з вёскі. Бо Яе прывёз мужык са шляхты , і хоць Яе дзеці ў нас хрышчаны, Яна ўсё трымае гіпсавыя фігуркі Богамацеры ў святым куточку, пад штучнымі кветкамі. Са шляхты Яна, хоць гэтая шляхта ўжо трыста лет свеціць голымі задніцамі з-пад падзертых портак і ездзіць на худой кабылцы, як той казаў. Ну, Яна баба, як баба, бабзно здаровае, геройская, як той казаў. Як заверашчыць, ажно па-за клунішчамі рэха йдзе.

Гавораць, чаравала Яна. Надта ж баба прагная, гатоў табе з горла кусок выдзерці, а вочы хітранькія, так і свідруе. Ну, ведзьмавала. Весялусі чырвоныя анучкі завязала на веніку, запляла Насці ячмень каля мяжы ў коскі. Як прыдзе да цябе на панадворак. то сабака духу не чуе, спачатку брэша як звар'яцелы, а пасля заб'ецца ў куток за будаю і вые, скуголіць ціхенька, дрыжыць. А каты Яе не баяцца, але кот не лякаецца ніякае нячыстае сілы. Мая Мурка, як Яе ўгледзіць, толькі паставіць шэрсць дыбам і завурчыць, або падыдзе, нюхае чаравікі і хвост тапырыць.

Як людзі ў поле пойдуць, то Яна па панадворках ходзіць. Або ідзе быццам да цябе хлеба ці чаго пазычыць, паходзіць па панадворку, туды-сюды загляне і ідзе назад дахаты.

— Мае кураняткі да вас паўцякалі, — кажа, прыбегшы з кошыкам.

— Што ў вас за квактуха, як дзяцей не ўпільнуе?

Пазбірае сваіх куранят, крыльцы падвяжа, а заўтра зноў прыдзе. Надумала я Яе адвучыць ад гэтага. Купіла я фарбы для шкураў, памалявала сваё куры на зялёны колер. Ходзяць курыцы, аглядаюцца, дзяўбуцца па пер'і, прывыклі. А Яна і перастала прыбягаць з кошычкам.

Яе чалавек стары, худы ды крывы, сіплы бы той жылаваты певень, як той казаў. А Яна баба здаравенная, кроў не вада, губы пацягне тлустай памадкай, косы памалюе, на нагах шпількі, на локці бліскучая сумачка. Кажуць, што кідае чмут нават на маладзенькіх. Гляне на Яе хлопец, ды душа, як той казаў, дыбам.

Цвярозы будзе, а Яна павядзе куды хоча, а што гаварыць аб падпітым! Ды гэтага ўсяго гэтым сабакам мала, уначы ўсе кошкі чорныя. Я, удава, баба прыстойная, многае бачыла ў жыцці, многа прабачыла людзям. Але здаецца мне, што гэту ведзьму абсадзіць трэба. Бо хто гэта бачыў, каб такое тварылася ў гэты час. Тэлевізары, космасы ўсялякія, навука, як той казаў, а такая чартоўшчына вядзецца па вёсках. Хоць ты яе забі, жыць не дае!

**Мяцёлка**

# ВЫСТАЎКА ДРУЖБЫ

**Так можна назваць выстаўку, прысвечаную саракагоддзю польска-савецкага супрацоўніцтва, якая адкрыецца 21 красавіка на выставачнай тэрыторыі ў Беластоку. Гэта будзе вялікае і важнае мерапрыемства ў паглыбленні нашых ведаў аб усходніх суседзях і аб карысцях дагавору дружбы, які быў падпісаны паміж Польшчай і СССР сорак гадоў назад. На выстаўцы будзе і беларускі акцэнт. Можна таксама будзе тут набыць савецкія сувеніры.**

**Да сустрэчы на выстаўцы!**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Напісаў нам хлапчук з першага класа Кшысь, што яму прысніўся вельмі страшны сон. Быццам ён бачыў, што па хаце хадзіў злодзей, які трымаў у руках запаленую свечку. — Я думаў, што гэта мама знаходзіцца ў ванне, — піша Коля, — быў гэта аднак злодзей, а скарэй за ўсё было іх двое. Першы быў нейкі такі з брыдкімі вачыма, а другі, дык гэта ўжо было проста страшыдла. Мне здалося, што я ўжо прачнуўся. Я разглядаюся вакол і бачу, што ў мамы маёй павырываныя з галавы валасы, а побач ляжаў парык. Дарагі Астроне, маёй маме ў апошні час таксама сняцца вельмі страшныя сны! Ці нас чакае нешта дрэннае?

**Кшысь**

Астроне, мне прыснілася, што я была ў нейкім лесе з адной сяброўкай. Мы ў гэтым лесе лезем пад гару з ёю, і я гляджу, што вось зусім пры дарозе растуць грыбы — ні то маслюкі, ні то праўдзіўкі. Я кажу сяброўцы, што трэба іх зрываць і мы нахіляемся з ёю да гэтых грыбоў, а яны аказваюцца нейкімі старымі, вялікімі, праўда, не спарахнелымі. Ідзем далей, але тых грыбоў становіцца ўсё больш, яны проста як бы ўжо сарваныя і ляжаць адзін на другім, вялікія, але немаладыя. Дзіўны мой сон, праўда, Астроне?

**Рэня**

Кшысь! Сніць злодзея нядобра. Абазначае гэта нейкую небяспеку, страту, варожасць. Тым больш, што злодзеяў было, здаецца, двое, а другі яшчэ страшнейшы за першага. Тое, што ў мамы тваёй былі павырываныя з галавы валасы, таксама абазначае нейкую страту. Трэба глядзець, каб нічога не згубіць, а таксама ўважліва пераходзіць праз вуліцу.

Рэня! Твой сон дзіўны. Грыбы наогул гавораць аб поспехах у каханні. Тваіх грыбоў ува сне было вельмі многа, і можна было б па іх меркаваць, што поспехі будуць. Паколькі грыбы былі старымі і вялікімі, але не спарахнелымі, то трэба спадзявацца, што з'явіцца нейкая старая, трывалая сімпатыя, якая прынясе табе гарачыя пачуцці.

**Астрон**

## ЛЁС ЧАЛАВЕЦТВА У РУКАХ РАСІІ

Захацелася мне ў вясенні дзень падарыць нашым чытачам малы фрагмент з новага рамана Юрыя Бондарава (аднаго з вядомых сучасных савецкіх пісьменнікаў) „Игра", які быў надрукаваны ў 1 і 2 нумарах часопіса „Новый мир". Фрагмент гэты на мяне зрабіў такое незабыўнае ўражанне, што я яго запісала на асобнай паперы і схавала ў свой архіў рэдкасных думак. Загаловак у „Ніве" — мой і выражае маю запаветную надзею. (вл)

„Россия — самая неожиданная страна. И такой второй нет в природе. Если уже что спасет заблудшую цивилизацию, так это опять же Россия. Как во вторую мировую войну.

Как? Не знаю. И через сколько лет — не знаю. И какими жертвами — не знаю. Но может быть, в ней запрограмирована совесть всего мира. Может быть... Америке этого не дано. Там разврат духа уже произошел. И заключено полное соглашение с д'яволом..."

**ПОГЛЯДЫ**

## НЕ МОДА

Чаму не хапае часу на рэфлексію? Як разабрацца, ці то жыццё так хутка ўцякае, ці час? Калі я чытаў апошнюю кніжку? „Полымя", якое прынёс з клуба тры тыдні таму, ляжыць някранута. А колькі іншага залеглага чытання? І работы-той хатняй, з-за якой, калі не зробіш, жонка пагражае развадам, а за прыклад ставіць суседа, які пастаянна нешта робіць, стукоча, грукоча.

А з другога боку спрабуйце нешта купіць, не пастаяўшы ў чарзе (хацеў напісаць у „калейцы", але цяпер магу напісаць правільна: у чарзе, бо мне ўдалося пазычыць польска-беларускі слоўнік, які ў свой час быў перацэнены з 70 да 20 зл.)

Думаю, што гэта не мода на беларускасць сталася прычынай, што пішам па-беларуску і ганяемся ў пошуках слоўніка, каб правільна пісаць. Недзе чытаў, што чалавек думае „без'язычна" — значыць у думцы не карыстаецца канкрэтнай мовай. Можа гэта і праўда. Але я, едучы гадзіну часу з працы, чытаў з цыкла Слаеўскага „Шчуравіска" нарыс п.з. „Задух". І якраз тады нарадзілася ў думцы вось гэтая рэфлексія, якую пішу, і усё гэта ў думцы складаў па-беларуску.

Адносна ж Слаеўскага. Калі аўтар, якога люблю чытаць (але і маю прэтэнзію да яго), пішучы многа пра Міцкевіча, не ўспомніў аніводным сказам, што нарадзіўся той на Беларусі — гэта несумленна. Гэта так, як бы хто пісаў пра Джозэфа Конрада — слаўнага англійскага пісьменніка — і не ўспомніў бы, што ён радзіўся ў Польшчы.

На шчасце, і мы з-пад хваста не ўпалі, — маем свайго Міцкевіча (Якуб Колас). Каб кола гісторыі інакш павярнулася, магло б быць двое беларускіх Міцкевічаў, або двое польскіх Міцкевічаў. Аб другой мажлівасці аж страшна падумаць!

**М. Махнацкі**

чыны, якую назваў я Данута, можна было б паставіць кропку, пажадаўшы ёй шчасця, добрага здароўя і радасці ў сямейным жыцці.

Толькі я ніяк не магу забыць, што Данута — гэта тая ж маленькая крушынка, якая нейкім цудам асталася ў жывых на руках сваёй мёртвай роднай мамы, Веры Міхайлаўны, што яе родны бацька, савецкі афіцэр, калі загінуў, дык жыццё сваё ахвяраваў і за нашу, значыць, і за яе, сваёй дачкі, бяспечную ды спакойную будучыню. А калі ён перажыў вайну? Хто можа пазбавіць яго права на вестку, што яго дачка, яго Любачка, яго Любоў Хведараўна Масаленка — жыве!?

Таму я і разумею гэтую жанчыну з Тапалян, Мальвіну Шымасюк, якая не змагла прамаўчаць праўды аб паходжанні пані Данута.

Але сама Данута не хоча шукаць свайго роднага бацьку. Ці не хоча? А можа толькі не верыць у рэальнасць гэтых пошукаў? Бо як, за што зачапіцца? А можа і яшчэ ёсць нейкая іншая, глыбейшая душэўная прычына — падсвядомая боязь, каб праўда не аказалася болей трагічнай, чым існуе яна ва ўяўленні? Можа лягчэй пайсці на магілу ля дарогі за Міхаловам і ў адзіноце малітвай і ціхім плачам выказаць небу свой задаўнелы боль?

Бо гэта па яе просьбе муж абсталяваў вакол брацкай магілы прыгожую агароджу, супольнымі сіламі паставілі помнік, Данута пасадзіла кветкі, а кожны год у задушны дзень запальвае там свечкі і лампадкі. Значыць, памяць аб іх, памяць аб сваёй роднай маме, аб родным бацьку, аб родным браціку, Валодзіку Маскаленка, для яе неабыякавая. Яшчэ і сёння адчувае яна з імі кроўную сувязь.

Але Данута кажа, каб не шукаць яе родных, яе сваякоў, што лепш не трывожыць яе самой і яе дзяцей. Добра, хай так і будзе. Аднак, у магіле пад Міхаловам знайшлі вечны спачын яшчэ многія іншыя байцы-чырвонаармейцы, якіх таксама чакалі і чакаюць свае бацькі і сваякі, браты і сёстры... Колькі іх там, у гэтай магіле? Напэўна не менш чымсьці 60. Людзі, з якімі давялося мне гутарыць аб гэтым, падавалі розныя лікі. Адны — што 64, іншыя — што 70, а цётка Насця, старажылка на Міхалоўскіх хутарах, даказвала, што было тут аж дзве магілы: у адной — 60 пахаваных, а ў другой 70 чалавек.

Вядома, лікі памяці не трымаюцца. Затое астаецца неўтаймаваны боль ад затраты кагосьці блізкага, нават аднаго чалавека. Пацвярджаюць гэта лісты. Лісты з розных куткоў вялікага Савецкага Саюза. Лісты з просьбамі, каб памаглі ў пошуках магілы, каб пераслаць жменьку зямлі, якая ўвабрала кроў іх бацькі, мужа, брата...

Ведаю, што я паўтараюся з гэтымі лістамі. Але яны пастаянна наплываюць. І я, калі бяру ў рукі канверт з лістам ад савецкіх грамадзян, ужо загадзя чую, як ад пальцаў у сэрца плыве гэты пякучы агонь і рукі дрыжаць ад уяўлення маёй горкай бездапаможнасці.

Вось для прыкладу ліст з апошняга часу, недзе з палавіны сакавіка гэтага года. Ліст ад

(Працяг на стар. 8)

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

У дн. 7-8 мая г.г. у Кракаве ў доме № 27 на Галоўным рынку (я залах „Мармуровай“ і „Люстранай“) адбудзецца кніжны аўкцыён. Ніжэй называем загалоўкі тых кніжак, якія, думаем, могуць зацікавіць нашых чытачоў.

Poz. 5. Akta Unji Polski z Litwą 1385—1791. Kraków 1932. Cena wywoławcza 2 tys. zł.

Poz. 16. Atlas historyczny Rzeczypospolitej Polskiej... Dział II. „Ziemie Ruskie" Rzeczypospolitej. Warszawa—Wiedeń 1889—1904 (2 karty opisu i 17 map). C.w. 40 tys. zł.

Poz. 17. Jak wyżej (brakuje 3 map). C.w. 20 tys. zł.

Poz. 66. Borodzicz J. — Pod wozem i na wozie. Pamiętniki Ks. J. Borodzicza, czyli kilka lat pracy duszpasterskiej na Litwie, Białej Rusi i w głębi Rosyi. Kraków 1911. C.w. 600 zł.

Poz. 130 Dangel S. — Rok 1831 w Mińszczyźnie. T. II. Warszawa 1925. C.w. 600 zł.

Poz. 185 Giermański S. — Sumaryusz klejnotów abo herbów państwa i rycerstwa korony polskiej i W. ks. Litewskiego... Kraków 1621. C.w. 6 tys. zł.

Poz. 187. Gizbert-Studnicki W. — Wilno. Przewodnik po mieście i okolicach. Wilno 1919. C.w. 500 zł.

Poz. 223 Halecki O. — Dzieje Unii Jagiellońskiej. T. 1/2, Kraków 1919—1920. C.w. 3 tys. zł.

Poz. 282 Karpiński J.J. — Puszcza Białowieska i park narodowy w Białowieży. Kraków 1930. C.w. 600 zł.

Poz. 302. Kodeks Dyplomatyczny Katedry i Diecezji Wileńskiej. T. I., zesz. 1/3. Kraków 1932—1948. C.w. 2 tys. zł.

Poz. 306. Kolankowski L. — Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1. (1377—1499). Warszawa 1930. C.w. 4 tys. zł.

Poz. 331. Kowalewska Z. — Obrazki Mińskie 1850—1863. Wilno b.r.w. C.w. 800 zł.

Poz 356. Kronika m. Grodna. R. 1928, zesz. 1/2. C.w. 1 tys. zł.

Poz. 380. Kurczewski J. — Opowiadania o dziejach chrześcijaństwa na Litwie i Rusi. Cz. 1. Od chrztu Litwy do końca XVI w. Wilno 1914. C.w. 800 zł.

Poz. 382. Kutrzeba S. — Historja ustroju Polski w zarysie. Tom drugi. Litwa. Lwów 1921. C.w. 400 zł.

Poz. 398. Lewicki A. Powstanie Świdrygiełły. Ustęp z dziejów Unii Litwy z Koroną. Kraków 1892. C.w. 1 tys. zł.

Poz. 412. Łowmiański H. — Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. T. 1/2. Wilno 1931—1932. C.w. 8 tys. zł.

Poz. 442. Mienicki R. — Wileńska Komisja Archeograficzna (1864—1915). Wilno 1925. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 456. Mniejszości narodowe w wyborach do Sejmu i Senatu w 1928 r. Warszawa 1928 C.w. 2 tys. zł.

Poz. 531 Paszkiewicz H. — Polityka ruska Kazimierza Wielkiego. Warszawa 1925, C.w. 1 tys. zł.

Poz. 535. Pawłowicz E. — Wspomnienia z nad Wilji i Niemna. Studya — podróże. Lwów 1883. C.w. 4 tys. zł.

Poz 542. Piekosiński F. — Herbasz Szlachty prowincyi witebskiej. Kraków 1899. C.w. 20 tys. zł.

Poz. 577. Powiat Mohylowski w Guberni Podolskiej. Opis geograficzno-historyczny... Kraków 1902. C.w. 2 tys. zł.

Poz. 602. Regesta źródłowe do dziejów Litwy. T. 1. (do r. 1315). Warszawa 1930. C.w. 800 zł.

Poz. 640. Semkowicz W. — W sprawie początków szlachty na Litwie i jej ustroju rodowego. Lwów 1916. C.w. 300 zł.

Poz. 746. Tokarz W. — Wojna Polsko-Rosyjska 1830 i 1831. z atlasem. Warszawa 1930. C.w. 6 tys. zł.

Poz. 757. Urbański A. — Podzwonne na zgliszczach Litwy i Rusi. Warszawa 1928. C.w. 1 tys. zł.

Poz. 778 Wielhorski W. — Byt ludności polskiej w państwie litewskim. T. II. Wilno 1925. C.w. 1 tys. zł.

(Працяг на стар. 11)

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Сказанае намі дагэтуль вычэрпвае з'явы, звязаныя з радзільна-хрысціянным рытуалам. Пасля хрысцін пачынаўся доўгі працэс выхавання дзіцяці. З працэсам гэтым арганічна спалучаны песенны фальклор, які ў літаратуразнаўстве называецца дзіцячым фальклорам. Гэта песні, якія спяваліся маці, бабкай, або старэйшымі сёстрамі, якія апекаваліся дзіцём. Належаць да яго таксама песні, якія ствараліся і спяваліся самімі дзецьмі, зразумела тады, калі дасягнулі яны прынамсі пяцісямігадовага ўзросту.

У сувязі з тым, што як выхаванне дзіцяці, так і матчыны або ўласны дзіцячы фальклор не мелі характару абраду, пакуль што не будзем імі займацца. Характарыстыка гэтай катэгорыі знойдзе месца ў пазнейшы час, у тым месцы, дзе будзем прадстаўляць рознага тыпу пазаабрадную беларускую народную паэзію.

Вяртаючыся да радзільна-хрысціннага абраду, хочацца падкрэсліць яго гуманітарны, глыбока чалавечы характар. Усе складавыя часткі гэтага абраду, а ў істоце цэлага комплексу абрадаў, звязаных з цяжарнасцю жанчыны, нараджэннем дзіцяці, першымі днямі яго жыцця і хрышчэннем, былі падпарадкаваны адной вялікай мэце: здароўю дзіцяці, яго знешняй прыгажосці, яго розуму і душэўнай высакароднасці, ўрэшце яго шчасцю.

Вымоўна аб гэтым выказалася жыхарка вёскі Бандары Аўдакея Баршчэўская:

„Што там аб гэтым многа гаварыці. Яно вядомо, што баба ў цёнжы рабіла розныя захады, чаго сама ні ведала, то дазнавалася ад другіх. Трохі маці сказала, трохі бабка сказала, трохі суседкі сказалі. Усё-такі з мацераю гаварыць аб гэтым яксе не выпадало. Яно вядомо, што калісь мацеры то сваім дочкам толькі адно ў голавы даўбілі: „не страць дзявоцтво", „не страць дзявоцтво". Божэ мой, калі штось падазравалі, то маглі і за каўтуны папацягаць або грымакоў надаваць чы ні даці дзён тры есці. Таму дзяўчата, не тое што цяпер, баяліся як агню, таго значыт, каб да шлюбу ўзяці і тое, значыцца, страціці! О, не, чаго як чаго, але такого то не было.

А калі ўжэ выходзілі замуж, то яно вядомо, што толком ніхто нічого не ведаў. Старэйшых пытаць устыдаліся, а маладыя калежанкі і самі нічого не ведалі. Але ў нас у Рыбаках была Аксеня. Тая моцно разбіралася, але толькі ў чужых справах, бо ў сваіх то ні вельмі. Бо якое ж там разбіранне, калі нарадзіла двое дзяцей і абое былі ненармальны. Ну, але не скажу, другім памагала моцно, і парадзіт і раскажэ, а калі ўжо прыдзе радзіць, то і дзіця адберэ. З часам то, вядомо, ад таго ад сяго усего бабы даведваліся. Бывало, як зберэмся дзесь без мужчын, то ўсё сабе скажэм, усё усенько і нават, не тут гаворачы, аб патрэбніцы і срацы, бо як жэ без гэтого. З пачатку, то бывало, нават слухаць устыдаешся, а после то ўжэ не устыдаліся, усе з летамі прыходзіт.

Чаго толькі не рабілі, калі ўжэ баба была груба, або калі трэбо было радзіць, або калі да хрысту везлі. Чаго толькі не выраблялі?! А для чаго усе гэто рабілі? А для таго, каб дзіця нарадзілася здаровэ, хорошэ, разумнэ і каб после было шчаслівэ. От і усе. Больш нічого ні трэба было. Ну, але вазьмі і запэўнь тое хараство і тое шчасце? Лёгко сказаць, але цяжко зрабіць. Але craраліся як маглі."

**А. Баршчэўскі**

Ф-А-Л-Ь-К-Л-О-Р

### ПРЫШОЎ МЭНЭ СВАТАТЬ...
(мікольская)




В садочку гуляла, кветочкі рвала —
молода дiўчына хлопця любіла,
молода дiўчына хлопця любіла.
Молода дiўчына хлопця любіла,
взяла за ручэньку — в садок повэла,
взяла за ручэньку — в садок повэла.
Взяла за ручэньку — в садок повэла:

— Нэ смiейсе, козачэ, што я й сірота,
нэ сміейсе, козачэ, што я й сірота.
Нэ сміейсе, козачэ, што я й сірота, —
прышоў мэнэ сватать, а я й нэ пушла,
прышоў мэнэ сватать, а я й нэ пушла.
Прышоў мэнэ сватать, а я й нэ пушла —
каліну ломала, віночок віла,
каліну ломала, віночок віла.

Ад Уладзіміра Ваўранюка, 1923 года нараджэння, і яго сястры Ніны Ляўчук, 1935 года нараджэння, вёска Тыневічы Вялікія, запісаў 7 лістапада 1984 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

(Працяг са стар. 7)

## МАГІЛА ЛЯ ДАРОГІ

**вучняў сёмага класа сярэдняй школы ў горадзе Сватава, што ў Варашылаваградскай вобласці. Гэта паўднёваўсходняя ўскраіна Савецкай Украіны. Дзеці не ведалі адрасу, на які накіраваць ім сваё пісьмо. Дык напісалі на канверце проста так: „Польская Народная Рэспубліка, г. Беласток, Рэдакцыя газеты". І ўсё. А ліст трапіў у „Ніву".**

„Паважаныя таварышы!

Да вас звяртаюцца члены групы „Пошук" сярэдняй школы № 2 горада Сватава, Варашылаваградскай вобласці. Па просьбе Леаніда Іванавіча Іванова мы вядзем пошукі месца пахавання яго бацькі — Іванова Івана Грыгор'евіча. Сын ніколі не бачыў бацькі, загінуўшага на вайне.

**Нам удалося знайсці паведамленне аб гібелі Івана Грыгор'евіча Іванова. На пажаўцелым лістку мы з цяжкасцю разабралі:**

**„Похоронен с отданием воинских почестей на кладбище западнее 700 метров деревни Подуховные Бельского района, Белостокской области 31/VII 1944 г."**

**Магчыма, — прадаўжаюць вучні з горада Сватава, — назву мы крыху перакруцілі.** Куды пісаць да вашых следапытаў, мы не ведаем. Таму просім вас дапамагчы нам у наступным:

1. Праверыць, ці ёсць такая вёска, ці ёсць там указаная магіла (брацкая або адзіночная).

2. Калі ёсць магчымасць, даслаць фатаграфію магілы дзеля ўручэння сыну.

3. Нам бы вельмі хацелася ўручыць сыну жменьку зямлі, вызваляючы якую загінуў яго бацька. Калі можна даслаць, будзем вельмі рады.

Вось якія нашы просьбы. Мы ўпэўнены, што вы дапаможаце нам неадкладна. Загадзя вам удзячны, члены групы „Пошук".

Найперш кінуліся мне ў вочы словы з гэтага ліста, што „сын ніколі не бачыў бацькі"! Значыць, ён нарадзіўся ўжо пасля адыходу бацькі на фронт. **Любачка Маскаленка свайго бацьку бачыла, усміхалася яму сваімі вочкамі некалькімесячнага дзіцяці. Але і яна таксама чыстасумленна магла б заявіць, што не бачыла свайго бацькі.**

**Леанід Іванавіч, хаця і не бачыў свайго бацькі, хоча нешта ведаць пра ягоны лёс.** Я хацеў ужо адразу паімчацца ў Бельскі раён, цяпер, вядома, гміну, каб пашукаць на могільніку ў вёсцы Падухоўныя магілу яго бацькі. Але тут жа ўцяміў, што я ніколі не чуў пра такую вёску. І сапраўды, у Бельскай гміне гэтакай вёскі няма. У афіцыйным спіску мясцовасцей ПНР знаходзяцца вёскі Падухоўныя ў Кракаўскім і Люблінскім ваяводствах. Аднак Іван Іваноў загінуў 31 ліпеня 1944 года, значыць, магло гэта здарыцца сапраўды толькі ў Бельскім раёне, бо Савінфармбюро 30 ліпеня 1944 года паведамляла:

На поўдні ад Беластока савецкія войскі занялі важны чыгуначны вузел, горад і вялікую чыгуначную станцыю Бельск Падляшскі ды вызвалілі звыш 60 іншых мясцовасцей, між іншым: Рыбалы, Аўгустова, Райск, Плюцічы і чыгуначную станцыю Страбля.

**1 жніўня 1944 года Савінфармбюро паведамляла:**

**На захад і паўднёвы захад ад Бельска Падляшскага савецкія войскі, прадаўжаючы зачэпныя баі, вызвалілі звыш ста мясцовасцей, між іншым:** Пяткова, Тапчэва, Глінніκі, Бронск (ці не Браньск), Рудку, Стаднікі, Драгічын на Бузе...

Значыць, сапраўды, на пераломе гарачага ліпеня і жніўня 1944 года пралівалі сваю кроў савецкія салдаты за вызваленне Бельшчыны. Толькі дзе, ля якой дарогі, на якім могільніку шукаць мне магілу Іванова Івана Грыгор'евіча? Дзе сям'я Любы Хведараўны Маскаленка?

Пытанні... пытанні... А мой адказ кароткі: пошукі прадаўжаюцца. Бо колькі яшчэ невядомых магіл пакінула нам вайна ля розных дарог! І таму, калі ласка, на сустрэчу цераз тыдзень.

**Віктар Рудчык**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# У БАРЫСАЎЦЫ

У адзін з першых веснавых дзён „Зорка" наведала школу ў Барысаўцы.

Чыста прыбраны школьны пляц быў заліты сонечнымі праменнямі. На кожным перапынку дзеці высыпаліся на двор, каб пад аслонай школьнай сцяны пагрэцца на сонейку.

Сустрэліся мы ўсе разам у найбольшым школьным класным пакоі. Пазнаёміліся, пачалі расказваць аб сабе.

Школа ў Барысаўцы, хоць месціцца ў старым будынку, але выглядае зусім прыемна: будынак адрамантаваны, адсвежаны. Дзяцей у школе нямнога (48 вучняў), дык усе зусім спраўна месціцца. З'язджаюцца сюды на заняткі дзеці таксама з Гарадзіска, Васількова і Альховай Кладкі. Усе дзеці вывучаюць беларускую мову.

Вёска Барысаўка знаходзіцца на ўскраіне Белавежскай пушчы. Якраз тут, у некалькі сотнях метраў ад школы прахождзіць граніца паміж Лядскай і Белавежскай пушчамі. Аб гэтым ведаюць тут усе дзеці. Бо ў школе вельмі добра працуе гурток Лігі аховы прыроды. Дзеці зімой дакармляюць у лесе звяроў і птушак, вядома, і на сваіх і школьным падворку маюць кармушкі для птушак. А цяпер, з першымі прызнакамі вясны, пачалі пільнаваць, калі прыляцяць першыя птушкі. І самі наглядаюць, і бацькам, і дзедкам загадалі пільнаваць, бо вельмі ж хочуць ведаць, калі і якія птушкі прылятаюць. Ад іх і мы даведаліся, што ўжо ў той дзень, 29 сакавіка, прыляцелі шпакі, дзікія качкі, нават хтосьці бачыў аднаго, першага бусла. Найцікавейшыя весткі дзеці маюць ад найбольш аўтарытэтнага ў ваколіцы чалавека, старога лесніка Аляксандра Грыгарука з Гарадзіска. Дзядзька Аляксандр ужо на пенсіі, але далей штодзень ходзіць на лесе і наглядае за прыродай. І галоўнае, дзядзька вельмі любіць расказваць дзецям цікавыя гісторыі аб звярах і прыродзе. З захапленнем пераказалі мне дзеці цікавае апавяданне дзядзькі Аляксандра аб тым, як калісьці даўно быў у дзядзькі прыгожы белы конь у латы, які выратаваў яму жыццё. Раз у лесе дзядзьку прываліла дрэва, быў ён непрытомны, і той конь выцягнуў яго з-пад дрэва і прыцягнуў дадому.

У школе вельмі актыўна працуюць гарцэры. Апрача сваіх звычайных збораў, яны ўпарадкавалі школьную бібліятэку, стварылі ў школе пад кіраўніцтвам настаўнікаў этнаграфічнае акенца. Вельмі добра працуе гурток ТППР. Дзеці перапісваюцца з савецкімі школьнікамі з розных гарадоў, супольна чытаюць рускія і беларускія кніжкі, абмяркоўваюць апавяданні з часопісаў.

Аб усіх гэтых справах расказвалі Мірка Кіцаль, Раманка Давідзюк, Аня Нічыпарук.

Ірынка Цеслюк, якая вельмі любіць спорт, расказвала, што яны праводзяць свае трэніроўкі ў лесе. А гэта дапамагае ім часцей наглядаць розныя з'явы прыроды.

У час нашай сустрэчы высветлілася яшчэ, што Раман Давідзюк піша вершы, Януш Каролька добра дэкламуе вершы (нам ён прачытаў верш Кандрата Крапівы „Дзед і баба"), а на заканчэнне Аня Нічыпарук і Ірынка Цеслюк заспявалі „Зорку-Венеру". Гэта стала прычынай, каб пагаварыць аб таленавітым беларускім паэце Максіме Багдановічу, які з'яўляецца любімым паэтам васьмікласніцы Ані Ляшкевіч. Сёлета Аня будзе паступаць у беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Маем надзею, што яе захапленне беларускай паэзіяй будзе ёй добрым памочнікам пры паступленні і далейшай вучобе ў гэтай школе.

На развітанне з „Зоркай" дзеці зрабілі памятны здымак усёй школай і абяцалі, што будуць часта пісаць пісьмы да „Зоркі" і расказваць аб сваіх школьных справах.

**Яніна Чэрнякевіч**

**Фота аўтара.**



Аня Ляшкевіч, васьмікласніца.



На развітанне з „Зоркай" дзеці ўсёй школай зрабілі памятны здымак.

ДА 40-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫЗМАМ

# ЗОЯ

Пачатак у папярэдніх нумарах

Зоя бліскуча выканала першае баявое заданне. Раніцай наступнага дня, яна, як абяцала, была ўжо ў распалажэнні атрада і падрабязна дакладвала камандзіру аб усім, што даведалася. Трэба сказаць, што тут дзяўчынцы вельмі пашанцавала. Справа ў тым, што цётка Палага аказалася не проста адзінокай цёткай Палагай, а партызанскай сувязной, якая ўжо другі год перадавала ў атрад каштоўныя весткі пра ворага. На гэты раз сувязной нейкім чынам удалося даведацца аб дні выступлення немцаў на партызан. Такой вестцы цаны не было. Цяпер камандаванне атрада дакладна ведала, калі чакаць ворага і дзе яму наладзіць „урачыстую" сустрэчу.

Першымі за справу ўзяліся падрыўнікі. Яны замініравалі дарогу, што вяла да партызанскага лагера. Потым выбралі сабе выгадныя пазіцыі бранябойшчыкі і кулямётчыкі, размеркавалі паміж сабой пазіцыі стралкі.

У дзень, які і называла цётка Палага, на лясной дарозе надрыўна зараўлі маторы. Карнікі рухаліся на лагер пад прыкрыццём двух браневікоў. На грузавіках былі ўстаноўлены буйнакаліберныя кулямёты, барты кузаваў ашчэрыліся чорнымі дуламі аўтаматаў. Нічога не скажаш, сіла была не маленькая.

Але... Адзін за другім ускалыхнулі наваколле тры магутныя выбухі. Няўклюдна павярнуўся і лёг на бок пярэдні бранявік, свечкай успыхнула адна машына, потым другая. Паляцелі ў кузавы карнікаў гранаты, у суцэльны гул зліўся трэск партызанскіх кулямётаў і аўтаматаў...

Літаральна пяць мінут, і ўсё было скончана...

За гэту аперацыю Зоі, як і іншым, перад строем была аб'яўлена падзяка. У дадатак камандзір асабіста ўручыў ёй трафейны пісталет „вальтэр".

— Бач ты, малая, ад зямлі не адрасла, а такую ўзнагароду адхапіла! — не без зайздрасці гаварылі некаторыя.

А Зоя аж зззяла ад шчасця. Нарэшце яна дамаглася свайго — ёй паверылі, яе ацанілі!

Пасля гэтага дзяўчынка ўдзельнічала ў шмат якіх аперацыях — разведка, засада, падпал маста, дастаўка ў лагер статка кароў, нарабаваных паліцаямі.

Маленькай гераіняй пачалі называць Зою ў атрадзе.

І вось атраду дадзена адказнае заданне — выйсці на „рэйкавую вайну". „Рэйкавая вайна" — гэта калі ўсе партызаны — асобныя групы, атрады, брыгады — адначасова выходзяць на чыгунку і знішчаюць там ахову, падрываюць рэйкі, масты, эшалоны. Гэта неабходна, каб спыніць на працяглы час адразу на вялікай тэрыторыі перавозку варожых салдат і тэхнікі, боепрыпасаў і прадуктаў.

(Працяг на стар. 10)

# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

## ВЕДЫ ЦІ ІНФАРМАЦЫЯ

...Суседскі кот Барсік скочыў з сёмага паверху — і застаўся жывы і здаровы. Мішка расказаў пра гэта сваім сябрам, і назаўтра аб гэтым ведаў увесь двор.

— Ці ж так сур'ёзна гаварыць? — паправіў нейкі эрудыт. — Трэба гаварыць больш па-вучонаму: інфармацыя, — казаў ён, — распаўсюдзілася ў шырокіх кругах грамадскасці.

Магчыма, што весткі аб гэтым незвычайным учынку ката войдуць у залаты фонд народнай культуры, і стануць агульнанароднымі ведамі, але яшчэ гэта не інфармацыя.

Інфармацыяй гэты факт стане толькі тады, калі гэтая вестка будзе нейкім чынам запісана ці то на паперы, ці на магнітафоннай плёнцы.

А ці не ўсё роўна — запісана гэтая вестка ці не? Кот жа ад гэтага не будзе адважнейшы.

Вядома, яму, хвастатаму, усё роўна. А вось для нашай чалавечай культуры запіс — падзея не менш важная.

Вось падумайце самі. Гісторыкі сцвярджаюць, што папярэднікамі сучаснай цывілізацыі былі старажытныя грэкі і рымляне, а перад імі — егіпцяне, шумеры... Што ж, выходзіць, што перад шумерамі не было людзей?

Вядома, былі. Жылі тысячагоддзямі. І культура ў іх была, аб гэтым сведчаць знаходкі археолагаў. Але ў іх быў адзін недахоп: іх весткі, веды не сталі інфармацыяй. Прасцей кажучы, яны не ўмелі запісаць свае дасягненні. Вось чаму лічыцца, што наша сучасная цывілізацыя пайшла ад шумераў — яны першыя навучыліся пісаць.

Да якіх страт прыводзіў звычай перадаваць весткі вусна, пакажу на прыкладзе. Старажытныя рымляне былі выдатнымі будаўнікамі. Пабудаваныя імі водаправоды — акведукі — у некаторых гарадах дзейнічаюць яшчэ да сённяшняга дня. Была ў гэтых акведукаў адна асаблівасць: будаваліся яны так, каб вада ў трубах цякла па схілу. Было гэта вельмі складанай справай, дарагой, але рымляне, якія не ведалі закона спалучаных сасудаў, былі перакананы, што „ўверх" вада не пацячэ...

Між тым гэты няхітры закон людзі ведалі, калі яшчэ і Рыма на зямлі не было. З дзве тысячы гадоў да нашай эры ў сталіцы старажытнай дзяржавы Элам дзейнічаў калодзеж, у якім заўсёды была вада. Сакрэт гэтага калодзежа быў просты: пад зямлёй ён злучаўся з возерам, якое знаходзілася за гарадской сцяной... Аднак веды старажытных эламітаў прапалі для чалавецтва, не перайшлі ў інфармацыю. У выніку гэтага шмат стагоддзяў пазней даводзілася будаваць прыгожыя, але вельмі дарагія акведукі.

Вы ніколі не здзіўляліся, чаму Амерыку адкрыў Калумб, а востраў Велікодны — галандзец Роггевен? Што, да гэтага часу там людзі не жылі? Жылі. І ў Еўропе ведалі аб іх. У Амерыку задоўга перад Калумбам плавалі і нарвежскія і нават егіпецкія мараходцы, а на Велікодны востраў — некаторыя індзейцы. Ды што з таго? Яны аб сваіх адкрыццях не запісалі!

Вось і выходзіць так: ты раскажаш мне, значыць, я буду ведаць. І больш ніхто. А каб гэта вестка стала інфармацыяй, яе трэба запісаць, а яе прачытаюць многія: увесь клас, уся школа, усё чалавецтва...

А многія з вас лянуюцца запісваць нават хатняе заданне!

**Паводле П. Саўко**



# Пішуць школьнікі

* * *

**ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

*Мяне завуць Адам Віркоўскі. Я паляк і жыву ў Міхалове. Наша школа носіць імя Уладзіслава Сыракомлі. Я пастаянна чытаю вашу газету і хачу стаць карэспандэнтам „Нівы". Найбольш падабаецца мне „Зорка".*

*Я пішу вершы, а адзін высылаю да вас. Калі вам спадабаецца, дык надрукуйце яго, калі ласка. Ён напісаны па-польску, бо беларускую мову я яшчэ настолькі не ведаю, каб пісаць вершы.*

**Адам Віркоўскі**

**АД „ЗОРКІ". З вялікай прыемнасцю, залічаем цябе, Адам, у лік зорчыных карэспандэнтаў. Пішы часцей і аб усім, што цябе хвалюе і цікавіць. Верш твой пакуль што надрукаваць не магу, бо мы на польскай мове не друкуем. Прабуй пісаць, як умееш, але па-беларуску. Можа гэта быць апавяданне, казка, якую ты сам склаў або проста інфармацыя аб сабе, аб сваіх сябрах, аб школе. Пішы аб усім, вясёлым і сумным, аб незвычайным і простым, аб усім, што бачыш вакол сябе. Чакаю тваіх пісем.**

**ЗОРКА**

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!**

*Я жыву ў Старым Беразове. Вучуся ў шостым класе. Вырашыла я паслаць Табе свой уласны верш. Скажы, што ты аб ім думаеш.*

**Аліна Скепка, Старое Беразова**

**АД „ЗОРКІ": Твой верш, Алінка, нядрэнны. Маеш цікавыя думкі. Пачынаеш страфу прыгожа, але потым губішся ў словах. Старайся, каб кожнае ўжытае слова мела свой глыбокі сэнс. Прапаную Табе пакінуць у вершы толькі па два першыя радочкі страфы. Тады Твой верш будзе выглядаць так.**

**МАЯ МОВА**

*У маёй мове і Колас і Купала.*
*І няшчасце простых людзей.*

*У маёй мове мой родны край,*
*Край наш бедны, беларускі.*

*У мове маёй — бацька і маці.*
*Бацька — жыццё і свет.*
*Маці — жыццё і мова.*

**Аліна Скепка.**

(Працяг са стар. 9)

## ЗОЯ

Разам з усімі пайшла на чыгунку і Зоя. Яна ўжо добра валодала амаль усімі відамі партызанскай зброі. Навучылася нават гранаты кідаць дакладна ў цэль, хаця ляцелі яны не надта далёка.

Група, у якой была дзяўчынка, мела задачу знішчыць ахоўную агнявую кропку праціўніка, што тулілася да насыпу чыгункі. Узяць яе было надзвычай цяжка. Прама не наблізішся — з вузкай амбразуры глядзіць у бок лесу драпежнае вока кулямёта. З бакоў таксама надта не падступішся — і ў права і ўлева прароблены шчыліны, каб маглі страляць аўтаматчыкі.

Партызанскі мінамётчык выпусціў па агнявой кропцы некалькі мін. Яны разарваліся ля самай амбразуры, але ніякай шкоды ворагу не нанеслі, нават не напалохалі. Наадварот. Кулямёт пачаў біць так шалёна, што ніхто з партызан нават галавы падняць не мог.

Што ж рабіць? Як заткнуць паганае горла фашысцкай гадзіне? Не ператворышся ж у яшчарку, не падпаўзеш непрыкметна ўшчыльную да кропкі, каб кінуць усярэдзіну гранату...

А яшчарка тым часам паўзла — маленькая партызанка Зоя. Павольна, не спяшаючыся, не падымаючы галавы... Метр, яшчэ адзін, яшчэ...

Ох, якія цяжкія гэтыя метры, якія небяспечныя... Заўважыць фашыст, секане з кулямёта і — усё... Можа, назад вярнуцца, або, лепей за ўсё, затаіцца і ляжаць, пакуль другія не прымусяць замоўкнуць нямецкі кулямёт? Яе ж ніхто не пасылаў. Сама папаўзла. Па ўласнай волі. У групе, мабыць, ніхто і не заўважыў, калі яна адпаўзла ўбок.

Не! Прэч гэтыя агідныя думкі. Яна ж хоча помсціць, і раптам — назад? Яна абавязана помсціць за смерць бацькоў, за нявінную кроў Васілька, і — назад? Не, не і не! Толькі ўперад.

Метр, яшчэ метр, яшчэ... І вось яна, халодная сцяна фашысцкага дота, які не дае ўзняцца стралкам, падрыўнікам!

Зоя прыўзнялася, вышмаргнула чаку з гранаты і шпурнула яе ў самую амбразуру.

Грымнуў выбух, і кулямёт адразу захліпнуўся — замоўк. З грамавым „ура" падняліся на штурм дарогі партызаны, са звонам паляцелі ўгору ўзарваныя рэйкі, дзесьці злева застракаталі аўтаматы.

Але Зоя нічога гэтага не чула. Адразу пасля выбуху гранаты нешта гарачае апякло ёй левае плячо і пацягнула ўніз, на зямлю. З разарванага рукава на траву закапалі чырвоныя расінкі...

Калі ўсё сціхла, партызаны паклалі Зою на плашчпалатку і панеслі. Побач з палаткай ішла доктар і раз за разам мацала пульс.

— Выжыве? — стрывожана пыталіся хлопцы.

— Крыві шмат страціла...

— Крыві не пашкадуем... У любога бярыце колькі трэба...

Над лясной дарогай, над галовамі партызан, над Зояй абнадзейваючы шумелі векавыя сосны...

А ззаду на зруйнаваным чыгуначным палатне застаўся дагараць варожы эшалон. На пакатым баку паравоза народныя мсціўцы штыкамі вывелі: „За нашу Зою".

**Яўген Курто**

# Пазнаёмімся

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, пос. Чкалова, пер. Днепровский, 48. Курьянова Олеся. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

СССР, 343406, Донецкая обл., г. Артёмовск, ул. Чайковского, 29, кв. 12. Грищенко Елене. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 6, кв. 18. Алена Батура, вучаніца 5 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 13, кв. 6. ОляВаўчок, вучаніца 4 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 55, кв. 5. Лена Лабыкіна, вучаніца 4 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, кв. 1, кв. 1. Таня Леванцова, вучаніца 4 класа.

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



**Памалюй палі, азначаныя лічбамі, наступнымі колерамі: 1 — жоўтым, 2 — аранжавым, 3 — чырвоным, 4 — фіялетавым, 5 — блакітным, 6 — зялёным, 7 — карычневым, 8 — чорным.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

З „Малой студэнцкай энцыклапедыі"

## ПРАФЕСАР

Хоць найчасцей прафесары выступаюць як персанажы анекдотаў пра фенаменальна забыўлівых і непрактычных вучоных, усё ж ёсць у іх і некаторыя іншыя функцыі. А менавіта: навучаць студэнтаў ды дактарантаў, наведваць пасяджэнні вучоных саветаў, згаджацца або не згаджацца з вельмішаноўнымі апанентамі, кіраваць дысертантамі, узначальваць кафедру, пісаць уласныя манаграфіі ды рэцэнзаваць шматлікія працы нястомных сваіх калег, адказваць на суровыя запыты вышэйстаячых ды стымуляваць дзейнасць ніжэйстаячых, выхоўваць вучняў і паслядоўнікаў, а ў інтэрвалах між гэтымі справамі яшчэ і рабіць эпахальныя навуковыя адкрыцці.

Згадзіцеся, што праз такія перманентныя перагрузкі вельмі цяжка не стаць забыўлівым.

Прафесар — найвышэйшае вучонае званне вузаўскага педагога. Упершыню яно было ўведзена ў XVI стагоддзі рэктарам Оксфардскага універсітэта. А ў перакладзе з латыні абазначае проста „настаўнік". Проста?! Але ці ж ёсць у школьным ды вузаўскім лексіконе яшчэ хоць бы адно слова, якое выклікае такую ж павагу і трапятную любоў?! Нездарма ў старадаўняй студэнцкай песні ёсць і гэткія радкі:

Vivat academia,
Vivant professores! —

радкі, што і сёння не патрабуюць перакладу.

Ю. Шанін



— Вам дапамагчы?








Цяжар славы.

## ДЗІЎНЫ СОН

Раніцой маці доўга не магла дабудзіцца дачкі, каб адвесці яе ў дзіцячы сад. Потым сказала ёй:

— Чаму так доўга не прачыналася?

— Я такі дзіўны сон бачыла, мама. Трэба ж было яго дагледзець.

## ТАКАЯ СПРАВА

Сын — бацьку:
— Тата, ты колькі атрымліваеш зарплаты?
— Дваццаць тысяч.
— Малавата, давядзецца табе шукаць працы з большай зарплатай.
— А то чаму?
— Ды тут такая справа, што я, мабыць, буду жаніцца.

## ЯК З КАРЦІНКІ

— Каханенькая мая! Ты выглядаеш, як быццам толькі што зышла з моднай карцінкі!
— Такая прыгожая?
— Не, такая размаляваная!

## ТРЫ НАГОДЫ

Прыйшоў дадому Кастусь пасля футбольнага матча п'яненькі. Жонцы вытлумачыў:
— На радасцях я: нашы выйгралі.
У наступны раз Кастусь прыйшоў яшчэ „цяплейшы".
— Не лайся, жонка. З гора я. Прадулі нашы...
У трэці раз прывалокся Кастусь цёмны, як ноч.
— Што, зноў будзеш апраўдвацца? — накінулася на яго жонка. — Сёння ж нічыя: 0:0!
— Нічога ты, жонка, не разумееш. З радасці — бо нашы не прапусцілі, а з гора — бо не забілі.

Пераўвасабленне: кідаў камені ў свой агарод. Будаваў дачу.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Сусед прыйшоў да суседа, а той чытае „Кнігу для бацькоў" А. С. Макарэнка.
— Ну, што там вычытаў, Марка?
— Шмат тут цікавага, Пятро. Ну, а наогул, добра было б выдаць яшчэ і „Кнігу для маці", бо толькі і чуеш, толькі і чытаеш: бацькі павінны, бацькі адказваюць, бацькі, бацькі...

*

Адзін італьянец тройчы эміграваў у Амерыку і вяртаўся назад. Калі ён чацвёрты раз папрасіў візу на выезд, чыноўнік яму сказаў:
— Вы павінны нарэшце ўразумець, дзе вам лепей: у Амерыцы ці ў Італіі.
— У дарозе, — адказаў італьянец.

*

Маленькі Андарс быў з татам у заапарку. Ля клеткі з ільвом ён сказаў:
— Тата, а калі ён з'есць каго-небудзь з нас, на якім нумары аўтобуса мне ехаць дахаты?

## ГУСАК І ПЕВЕНЬ

Гусак старанна вартаваў у кучы зерне,
Ды звольніўся ён гэтакі маўчун.
Паставілі на варту Пеўня —
А Пеця быў дурны крыкун.
І хоць зярняткі з кучы сталі уплываць,

Даводзіў Пеця на нарадах:
— Я тут навёў парадак!..

Так іншыя дзялкі крычаць,
Каб утрымацца на сваіх пасадах.

Ф. Троіцкі

З „Весніка Задрыповіі"

## НОВАЕ Ў ТРАНСПАРЦЕ

Ідучы насустрач пажаданням насельніцтва, Ачуцінаўскі аўтамабільны завод пачаў выпуск гумовых аўтобусаў.

## АДКРЫЦЦЁ ДАЦЭНТОВІЧА

У жыцці трэба рабіць выбар: траціць грошы ці зарабляць іх. Сумяшчаць нельга — не хопіць часу.





— Мама, мяне таксама бусел прынёс?





## КУРЁЗЫ

### „ЗАСТУКАНЫ" ПРАКУРОР

Пракурора канадскай правінцыі Альберта Грэма Харла „застукалі" з прастытуткай у службовай машыне і прымусілі падаць у адстаўку, хаця чалавек на чысцейшай англійскай мове тлумачыў, што ён хацеў асабіста заняцца вывучэннем прастытуцыі як сацыяльнага зла.

### САПЛІВЫЯ ТЭРАРЫСТЫ

Надвячоркам 72-гадовая Марта Кэнінам пачула ціхі стук у дзверы. З цяжкасцю перастаўляючы ногі, жанчына адсунула засаўку і зняла ланцужок. На парозе сталі тры хлапчукі гадоў па 8-10 з кубкамі для ахвяравання.
— Мы з тутэйшага прыхода, — растлумачылі яны. Пакуль бабуля шукала дробныя грошы, усе трое, адштурхнуўшы яе, рынуліся ў пярэдні пакой. Перакульваючы крэслы, яны абшарвалі скрынкі камодаў у шафе і збіралі ўсё, што лічылі каштоўным. Не забыліся прыхапіць усе наяўныя грошы і бабуліны каштоўнасці. Як высветлілася пазней, гэта былі члены банды малалетніх злачынцаў, якая ў апошні час літаральна тэрарызавала састарэлых жыхароў Глазга.




Мы не можам чакаць літасці ад прыроды пасля таго, як ператварылі яе ў навакольнае асяроддзе.